ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 57 — 58 (5239 — 5240)
Субота, 26 мая 2001 года

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Галоўны прынцып — не перашкаджаць

Сапраўдны рускі інтэлігент Дзмітрый Ліхачоў пісаў, што ў нашай краіне выдаецца штогод вялікая колькасць літаратуры пра этыкет, але ўзровень выхаванасці, уменне правільна паводзіць сябе на людзях пажадана, каб былі вышэйшымі. Здаецца, вялікі выбар літаратуры па гэтым пытанні павінен бы быў вырашыць гэтую праблему, але хамства паўсюдна: і ў транспарце, і ў побыце, і на працы — не змяншаецца. Далей аўтар гаворыць, што трэба запамінаць безліч правілаў, як паводзіць сябе на працы, дома, у гасцях, хаця дастаткова запомніць адно адзінае правіла: не перашкаджаць іншаму. Я думаю, што гэты мудры чалавек мае рацыю. Сапраўды, калі б людзі ведалі, памяталі і заўсёды стараліся прытрымлівацца гэтага правіла, то ў нас вырашылася б мноства праблем, і ўсе мы сталі б здаравейшымі, прыгажэйшымі і разумнейшымі.

Яшчэ больш правіла "Не перашкаджай іншаму!" падыходзіць для педагогікі. Па педагогіцы выдаецца вялікая колькасць літаратуры, выкарыстоўваюцца разнастайныя педагагічныя тэхналогіі: тэхналогія поўнага засваення, тэхналогія рознаўзроўневага навучання, тэхналогія калектыўнага ўзаеманавучання, тэхналогія модульнага навучання і іншыя, а вынікі не заўсёды і не ўсюды такія, якія хацелася б мець. Я лічу, што гэта адбываецца таму, што мы часам несвядома і, чаго грахі таіць, свядома перашкаджаем развівацца, расці ў духоўным і інтэлектуальным плане. Паводле даных псіхолагаў, сярод першакласнікаў назіраецца высокі працэнт адораных дзяцей, а пры заканчэнні школы толькі ў 2 працэнтаў вучняў адзначаецца адоранасць. Атрымліваецца, што некаторыя настаўнікі ператвараюць "дубкоў", якія паступаюць у школу, у "ліпу".

Канешне, не ўсе настаўнікі —"дрэваапрацоўшчыкі", але, на жаль, дастаткова такіх, якія нават перашкаджаюць іншым служыць па-сапраўднаму справе педагогіцы.

А як жа было б добра, калі б:

а) настаўнік не перашкаджаў творчаму росту вучня;

б) дырэктар не тармазіў творчае развіццё настаўніка;

в) загадчык аддзела адукацыі даваў зялёнае святло ініцыятыве і самастойнасці дырэктара;

г) Міністэрства адукацыі мела права напрамую ўмешвацца і караць тых, хто стварае толькі бачнасць працы.

Часта мы шукаем вінаватых і блізка, і далёка, не заўважаючы пры гэтым, што самі нярэдка вінаваты ў сваіх бедах.

Раней я часцей выказвала незадавальненне дрэнным абслугоўваннем у магазіне, у касе аўтавакзала. Цяпер жа даводзіцца стрымліваць сябе, таму што — на каго бурчаць? Узрост касіраў, урачоў, прадаўцоў — узрост маіх вучняў. Калі яны дрэнна абслугоўваюць мяне, значыць тут і мая віна — не навучыла, не паўплывала. Бо шыюць адзенне, пякуць хлеб, будуюць жыллё не іншапланецяне, а нашы вучні, тыя, якім мы павінны былі дапамагчы ператварыцца з брыдкіх качанят у прынцаў.

А колькі здольных вучняў з цяжкіх сем'яў не пабачылі студэнцкіх аўдыторый ВНУ! Так, вучні паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, але пераважна тыя, чые бацькі самі маюць вышэйшую адукацыю. Маё жыццёвае крэда такое: хто можа вучыцца, той павінен вучыцца далей. ВНУ, аспірантура павінны быць адкрыты для ўсіх жадаючых. Задача настаўніка — дапамагчы адораным дзецям. Бо самы чулы ўрач з добрымі намерамі застанецца дрэнным спецыялістам без прафесійнай знаходлівасці і кемлівасці. Вельмі рада, што апошнія гады вядзецца вялікая работа па кантролі за паступленнем у ВНУ. Я ўпэўнена: хто мае трывалыя веды, для таго адчынены дзверы ВНУ.

Ва ўрачоў ёсць правіла "Не нашкодзь", а ў педагога павінна чырвонай ніткай праходзіць наступная ісціна: не перашкаджаць вучню ператварыцца з брыдкага качаняці ў прынца. Каб потым за прылаўкамі магазінаў, у цырульнях, ля аперацыйных сталоў, у невялікіх майстэрнях нас сустракалі прынцы і прынцэсы, якія ведаюць сваю справу, галантныя, інтэлігентныя, тактоўныя...

**Яніна ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**настаўніца Холхлаўскай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна.**

Рэформа школы

## На цудоўнай сцэне Дзяцінства

***Дзіця — гэта сто масак, сто роляў здольнага акцёра. І трэба даць яму магчымасць сыграць на цудоўнай сцэне Дзяцінства гэтыя 100 роляў.***

***А асоба сапраўднага настаўніка — гэта заўсёды незадаволенасць, пошук, творчасць. Можа перш за ўсё таму і неабходна рэфармаванне школы.***

У рэфармаванні закладзены:

а) спроба стварэння поўнай, сярэдняй, універсальнай школы, якая абапіраецца на дыферэнцыяцыю, каб кожны вучань змог усвядоміць, што ён хоча выбраць;

б) стварэнне ліцэйскага ўзроўню навучання, які дазваляе бліжэй пазнаёміцца з будучай прафесіяй.

Задача рэфармаванай школы — падрыхтаваць такога выпускніка, які валодае неабходнай хуткасцю мыслення, умее так працаваць у калектыве, карыстацца патрэбнай інфармацыяй, дэталёва прапрацоўваючы кожнае рашэнне, умее ўзяць на сябе і адказнасць у складаных абставінах.

Рэфармаваная школа будзе даваць вучням грунтоўную адукацыю, палепшыць іх падрыхтоўку да жыцця і працы пры змяншэнні вучэбнай перагрузкі, у дзяцей будзе больш часу фізічна развівацца.

Толькі калі дзіця развіта інтэлектуальна, адхіленняў у яго паводзінах не будзе.

Нельга сказаць, што савецкая школа была дрэннай. Самая вялікая каштоўнасць былой сістэмы адукацыі — фундаментальнасць ведаў, тэарэтычная падрыхтоўка да жыцця. Усе вучні мелі аднолькавыя ўмовы для навучання, ім прадастаўлялася магчымасць атрымаць пэўныя веды па агульнаадукацыйных прадметах.

Але гэтыя плюсы маглі ператварыцца ў мінусы. Напрыклад, стаяла задача даць вучням па кожнаму прадмету такі аб'ём ведаў, з якім можна было б атрымаць потым пяць вышэйшых адукацый. Гэта было пэўным перагібам. Ды гэты набор часта яшчэ і навязваўся кожнаму вучню, хоць у навуках, як вядома, кожны моцны па-рознаму.

Адзін з галоўных накірункаў рэфармаванай школы — развіццё здольнасцей вучняў на аснове індывідуальнага падыходу, дыферэнцыяцыя навучання. Таму сёння на ўроку галоўнае — стварыць творчую атмасферу ўзаемаадносін і даверу, дзе можа развівацца асоба і праявяцца здольнасці кожнага вучня. Пры гэтым неабходны асобасныя якасці настаўніка — дабрата, адкрытасць, шчырасць, адданасць справе.

Паявіліся зусім новыя формы навучання — ігравыя, інфармацыйныя. Распрацоўваецца, адаптуецца і ўкараняецца новая сістэма ацэнкі ведаў. Школа не можа працаваць цяпер і без псіхалагічнай службы.

Аднак праблемы ёсць. Яны дыктуюцца часам. Гэта фінансаванне, а таксама недастаткова распрацаваныя эканамічныя і прававыя асновы функцыянавання сістэмы адукацыі.

Вялікая колькасць школ рэспублікі патрабуе капітальнага комплекснага рамонту. Каля 60 працэнтаў вучэбнага абсталявання і сродкаў навучання эксплуатуецца больш як 15 гадоў і практычна павінна быць спісана. Але нават усім гэтым абсталяваннем забяспечанасць складае прыкладна 75 працэнтаў.

Па-ранейшаму асноўнай рухаючай сілай рэформы з'яўляюцца творчасць, энтузіязм, ініцыятыва настаўнікаў, якія не падмацоўваюцца эканамічнымі стымуламі.

Рэформа будзе мець поспех, калі грамадства і ўлада павернуцца тварам да настаўніка, калі прафесію педагога, выхавацеля падымуць на самы высокі ўзровень.

Калі павысіцца прэстыж настаўніка, то ў педагагічныя ВНУ будуць паступаць лепшыя выпускнікі школ не толькі па ведах, але і па маральных якасцях, з добрым сэрцам і глыбокай душой, і абавязкова — са схільнасцю да прафесіі настаўніка. А гэтыя якасці змогуць заўважыць і выхаваць у сваіх вучняў толькі настаўнікі школ, што яны і засведчаць у рэкамендацыях.

Якой будзе школа XXI стагоддзя? Пра тое, быў моцным ці не наш падмурак адукацыі, створаны творчымі намаганнямі настаўнікаў і фінансавымі — дзяржавы, мы даведаемся ад будучых пакаленняў. Яны сумленна паведамяць, ці дастаткова было ўсяго сёння.

**Алена ДЗЕМЯШКЕВІЧ,**
**метадыст Мінскага абласнога ІПК.**

Сельская школа

## Нібы карабель на ўзгорку

***Калі ехаць міма Ладзенікаў з боку Гродна, то абавязкова заўважаеш на ўзгорку вёскі прыгожую вялікую будыніну — мясцовую школу. Яна — нібы карабель — красуецца сярод жыллёвага мора вясковых хат. Школа сапраўды стала цэнтрам адукацыі, культуры, навукі і выхавання. Як некалі на хросныя хады збіраліся і малыя, і старыя вакол царквы, так і ў мінулым навучальным годзе, падчас адкрыцця новай базавай школы ў Ладзеніках, сабралася ўся акруга. Вяскоўцы віталі адзін аднаго з радаснай, доўгачаканай падзеяй.***

"Я часта прыходзіла на будоўлю, — гаворыць Аляксандра Мікалаеўна Варава, дырэктар базавай Ладзеніцкай школы, — здаралася, і ўпотай, глядзела на першыя пакладзеныя цаглінкі, марыла... На той момант дзеткі вучыліся ў чатырох напаўспарахнелых драўляных будынках, узведзеных адразу пасля вайны. Зразумела, марылі аб светлых класных пакоях, шырокіх калідорах, нармальных умовах".

У тое, што новую школу ў вёсцы ўсё ж пабудуюць, верылі толькі настаўнікі. Менавіта яны шмат год таму пачалі дабівацца згоды ў начальства, наладжвалі сувязі з усімі, хто ў стане быў дапамагчы. Нарэшце, восем год таму позняй восенню быў падрыхтаваны катлаван і пакладзена некалькі першых пліт падмурка. Увесь педагагічны калектыў адразу нацэліўся на працу.

Падчас першага навучальнага года ў новай школе ўсе будаўнічыя работы былі спынены, таму што асноўная ўвага скіроўвалася на навучальны працэс. Чакаюць настаўнікі летніх канікулаў, каб, не шкодзячы дзеткам, дабудаваць усё, што таго патрабуе. Сур'ёзны падыход калектыву школы да адукацыі і выхавання вучняў ужо даўно стаў прадметам размоў ва ўсім Навагрудскім раёне. Ва ўсе часы Ладзеніцкая ўстанова ўдзельнічала ў спаборніцтвах, конкурсах, алімпіядах, займаючы высокія месцы, атрымліваючы ўзнагароды. Разам з тым тут не захапляюцца колькасцю выдатнікаў. Вельмі строгае стаўленне педагогаў да ацэнкі ведаў школьнікаў дазволіла выйсці на моцную групу "харашыстаў". У мінулым навучальным годзе, напрыклад, медалістаў не было ўвогуле, аднак 30 працэнтаў вучняў паступілі ў дастаткова прэстыжныя сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Для сельскай школы гэта добры паказчык. Па словах А.М.Варавы, сёння адзінкі дзяцей не працягваюць сваё навучанне пасля заканчэння базавай школы (ідуць у 10 — 11 класы Навагрудка).

Згадзіцеся, што своечасова наладжаны кантакт з патрэбнымі людзьмі становіцца, у большасці сваёй, гарантам плённага супрацоўніцтва ў будучым. Падчас будаўніцтва школы ў Ладзеніках у калектыва з'явілася шмат добрых сяброў, саўдзельнікаў, апекуноў. Нягледзячы на тое, што афіцыйным шэфам новай школы лічыцца мясцовы калгас, на ўрачыстай лінейцы з нагоды адкрыцця ўстановы былы кіраўнік яе будаўніцтва аб'явіў сваю арганізацыю другім шэфам і падарыў дзеткам падрыхтоўчага класа вялікія прыгожыя цацкі. Ад былога старшыні Гродзенскага выканкама Аляксандра Іосіфавіча Дубко атрымалі сапраўды каштоўны дар — навейшы камп'ютэрны клас. Набылі цудоўнае абсталяванне для актавай залы — сучасную гукаўзмацняльную тэхніку. Зразумела, што магчымасці школьнікаў сталі непараўнальна шырэйшымі.

З адкрыццём новай школы ў ладзеніцкіх школьнікаў з'явіліся і новыя цудоўныя магчымасці і перспектывы. Ужо два гады практыкуецца рознаўзроўневае вывучэнне матэрыялу. Дзяліць класы на падгрупы паспрабавалі, напэўна, першымі ў раёне. Спачатку ўвялі групу павышанага вывучэння матэматыкі, а сёлета — яшчэ і профільнае вывучэнне хіміі і біялогіі, інфарматыкі і фізікі. Канешне, падрыхтоўка настаўніка да ўрокаў істотна ўскладнілася, аднак кожны з іх імкнецца зрабіць са сваіх вучняў канкурэнтаздольных абітурыентаў.

"Характарыстыкі "дрэнны" і "добры" вучань, — гаворыць Аляксандра Мікалаеўна, — у наш час проста злачынныя. Нельга "вымяраць" дзіця выключна фізікай ці хіміяй, неабходны цэласны псіхалагічны падыход да яго, які ўключае ў сябе работу з маленькай асобай па-за ўрокамі".

Адным са спосабаў сацыялізацыі вучняў з'яўляецца ўменне навучыць іх прымаць патрэбнае рашэнне і ўмець яго самастойна рэалізаваць. Не чакаць гатовага. Дэвізам школьнай арганізацыі самакіравання "Вясёлка" з інтэграванай у яе сістэмай класнага самакіравання ў Ладзеніках лічыцца: "Дасягай пастаўленай мэты сам". І калі вясёлка мае сем колераў, то і разнастайных сем шляхоў рэалізацыі сябе ёсць у кожнага дзіцяці. Самыя спрыяльныя ўмовы створаны дзеля гэтага ў школе. Праз шматлікія школы і школкі, якія дзейнічаюць на базе ўстановы, а гэта і школа гульні на гітары, на фартэпіяна, тэатр мод (самі шыюць касцюмы), хор, школа аматараў матацыклаў, якімі кіруе былы дырэктар Мікалай Іванавіч Гальцоў, шэраг дэкаратыўна-прыкладных гурткоў, настаўнікі выхоўваюць у дзяцей лепшыя чалавечыя якасці.

"У будучым мы бачым сябе менавіта этнашколай, — гаворыць дырэктар, — таму заняткі пабудаваны на народным фальклоры. Ужо пяць год дзейнічае факультатыў народных мастацкіх промыслаў, існуе і народная вышыўка, народны касцюм, у якіх бачыцца наша моц. У раённым конкурсе на лепшую швачку мы прадстаўлялі свой аўтарскі касцюм "Гражына", зроблены дзецьмі пад кіраўніцтвам настаўніка, дзе занялі першае месца..."

"Работа з сям'ёй, узаемаразуменне паміж бацькамі і настаўнікамі — залог паспяховага навучання і выхавання дзіцяці, — лічыць А.М.Варава. — Я бачу сваю задачу менавіта ў партнёрстве. Ні ў якім разе нельга папікаць сялян у дрэнным выхаванні малых. Чалавек вёскі — працаўнік, які заняты ўвесь светлавы дзень. Выхаванне дзіцяці ў нашай вёсцы трымаецца менавіта на сумеснай працоўнай дзейнасці. Школа дапамагае бацькам". І робіцца гэта часам нетрадыцыйна: у Ладзеніцкай базавай школе спецыяльна для бацькоў выдаецца прыкладна 1-2 разы на год газета, каб паказаць мамам і татам іх цудоўнае ва ўсіх адносінах дзіця. Праз узаеміны вучняў, бацькоў, педагогаў выхоўваецца паўнацэнная асоба, адукаваны чалавек. Напрыклад, Валерый Іосіфавіч Ёдзь, намеснік дырэктара, настаўнік матэматыкі, зацікавіў сваім прадметам многіх вучняў. Ці Вольга Мікалаеўна Панасюк, выкладчыца англійскай мовы, — малады спецыяліст, які паступова здымае ў вучняў бар'ер паміж сваёй і іншаземнай мовай... А Ларыса Мікалаеўна Комар, настаўніца геаграфіі (сумяшчае яе з хіміяй і біялогіяй), якая кіруе раённым метадычным аб'яднан-нем настаўнікаў хіміі базавых школ, запальвае агеньчыкі інтарэсу да свайго прадмета ў самых упартых і непаслухмяных дзетак. Яны ўсе робяць сваю справу, цалкам аддаючыся ёй. Дзеці адчуваюць гэта, яны, нібы губкі, убіраюць у сябе дабратворнае зерне навукі, чалавечых адносін, культуры сваіх педагогаў, каб захаваць яго і пранесці праз усё жыццё.

**Вольга ДУБОВІК.**

НА ЗДЫМКАХ: Аляксандра Мікалаеўна Варава — дырэктар; настаўніца пачатковых класаў Ірына Міхайлаўна Пікта займаецца са сваімі вучнямі па праграме этнашколы; Таня Дратайла (7 кл.) і Каця Хоміч дэманструюць нацыянальныя касцюмы, зробленыя ўласнымі рукамі.

## Гала-канцэрт талентаў

***Днямі ў Палацы аўтазавода адбылася знамянальная падзея: на гала-канцэрт з'ехаліся лаўрэаты рэспубліканскага фестывалю харавога мастацтва навучэнцаў, студэнтаў і педагагічных работнікаў навучальных устаноў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

Папярэдне фінальны этап фестывалю прайшоў у цэнтры мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" сярод 18 харавых калектываў з розных куткоў Беларусі. Сардэчна сустракалі ўдзельнікаў конкурсу ў сталіцы. Членамі журы сталі знакамітыя артысты і музыканты.

У праграме конкурсных выступленняў гучалі духоўная музыка, беларускія народныя песні, творы рускіх класікаў.

Дыпломы і каштоўныя падарункі атрымалі харавыя калектывы Магілёўскага эканамічнага прафесійна-тэхнічнага каледжа пад кіраўніцтвам Ніны Рандзіцкай, Гомельскага дзяржаўнага музычна-педагагічнага каледжа імя Л.С.Выгоцкага (кіраўнік Аляксандр Первышаў), Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі (кіраўнік Аляксандр Мінянкоў) і іншыя.

Званне лаўрэатаў заваявалі хор "Званочак" Слонімскага прафесійнага сельскагаспадарчага ліцэя (кіраўнік Ларыса Юрык), акадэмічны народны хор Гомельскага каледжа мастацтваў імя М.Сакалоўскага (кіраўнік А.Сабалеўская), акадэмічны камерны хор Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна пад кіраўніцтвам Мікалая Трафімчука.

На фестывалі прысутнічалі намеснік міністра адукацыі Алег Слука, начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Георгій Бутрым, народны артыст СССР, прафесар дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужаны работнік культуры Беларусі, прафесар Беларускага універсітэта культуры Станіслаў Дробыш.

Госці выказалі спадзяванні, што харавое мастацтва стане неад'емнай часткай выхавання высокай культуры сярод навучэнцаў.

**Ала КЛЮЙКО.**

Асветніцкі дадатак да "Настаўніцкай газеты"




*"Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнёзда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чуют вири своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по возе, к тому месту великую ласку имають".*

№ 21

Спадчына

# "Ой, выйду на гору..."

***Культ узгоркаў характэрны для большасці народаў свету. Паводле міфалагічных уяўленняў, на некаторых гарах жывуць багі, у ніжняй іх частцы — злыя духі, а на зямлі — чалавечы род. На Блізкім Усходзе свяшчэннымі лічацца гара Арарат, гара Сінай, у грэкаў — Алімп, Парнас і інш., у японцаў — Фудзіяма, у Афрыцы — Кіліманджара, у палякаў — Лысая гара.***

У беларускім фальклоры часта фігуруе герой Трэм-сын, якому неабходна ўзабрацца на высокую гару, каб злавіць Жар-птушку. Шмат ёсць паданняў аб узнікненні ўзгоркаў з камянёў, якія кідалі волаты. У беларусаў няма адзінай свяшчэннай гары, але ў нас шмат гор, якім пакланяецца насельніцтва пэўнага рэгіёна. На многіх з узгоркаў спраўляюць Купалле. Сярод іх перш за ўсё вартыя ўвагі тыя, што маюць назву Святая гара. З-пад Святой гары, напрыклад, бярэ пачатак Нёман.

Вялікая ўвага надавалася Дзявочым горкам. Каля вёскі Дуброва Валожынскага раёна ёсць Дзявочая гара, або Дзевяцігара. На ёй ляжыць Адамаў камень і знаходзіцца курганны могільнік XI-XII стст. Дзявочая гара, або Святая гара, размешчана каля вёскі Любонічы Кіраўскага раёна. На гары была пабудавана Багародзіцкая царква. Дзявочая гара ёсць у Мсціславе паблізу возера Святога.

Дзяўчына-гара, або Дзяўчыніна гара, існуе каля вёскі Малыя Гарадзяцічы Любанскага раёна. Нядаўна краязнаўцы Малагарадзячыцкай сярэдняй школы прыслалі сабраную імі цікавую інфармацыю пра гэты ўзгорак. Паданне гаворыць, што некалі, пры "панскім часе", было шмат жабракоў і старцаў. Аднойчы ў вёску прыйшлі жабракі і з імі была дзяўчынка. Яна памерла, і яе пахавалі на гэтай гары. Адсюль і назва — Дзяўчыніна гара. Старажылы расказваюць, што раней, калі людзі бывалі ў гэтай мясціне, то пакідалі на гары кавалачкі хлеба. Такі факт сведчыць пра колішнія ахвярапрынашэнні ўзгорку. Пагоркі з назвамі тыпу Дзявочая гара звязаны з культам жаночага бажаства, багіняй-дзевай, якая з'яўляецца папярэдніцай хрысціянскай Дзевы Марыі.

На многіх легендарных узгорках у старажытнасці былі язычніцкія капішчы, стаялі выявы багоў, запальваліся рытуальныя вогнішчы. З такімі аб'ектамі можна звязваць узгоркі, якія маюць назвы накшталт Перунова гара, Пярунка, Баб'я гара, Богава гара, Ігрышча, Гуслішча, Карагодзіца, а таксама назвы, што ўзніклі ў хрысціянскія часы, — Званіца, Царкоўка, Касцёльная гара.

У вёсцы Какорычы Капыльскага раёна пра Касцёл-гару запісана паданне. Быццам бы ў далёкія часы там стаяў касцёл, які потым праваліўся ў зямлю. У народзе лічылася: калі на Купалле прыйсці сюды да ўсходу сонца і нахіліцца да зямлі, то можна пачуць, як ідзе набажэнства ў падземным касцёле. Для таго, каб дастаць касцёл з-пад зямлі, трэба сабраць 40 сямігадовых хлопчыкаў, якія нарадзіліся ў адзін дзень. Толькі ім пад сілу будзе адкапаць касцёл.

Усе ведаюць у Мінску гару над Свіслаччу, дзе знаходзіцца тэатр оперы і балета. У глыбокай старажытнасці на гэтай гары існавала язычніцкае капішча. На ім пакланяліся каменю-следавіку. Яшчэ ў XIX стагоддзі сярод мінчан ён быў вядомы пад назвай "След Пятра". У часы хрысціянізацыі на месцы капішча была пабудавана Троіцкая царква. Адсюль пайшла і назва — Троіцкая гара. Наваколле гары сёння завецца Троіцкім прадмесцем. Падобным чынам узніклі назвы тыпу Юр'ева горка, Мікольская гара. Напрыклад, на Юр'евай горцы каля Віцебска раней ў дні святых Барыса і Глеба (2 мая і 24 ліпеня) штогод у царкве адбываліся святочныя набажэнствы.

Вартыя ўвагі ўзгоркі пад назвамі Сіняя гара. Напрыклад, такі ёсць каля вёскі Сіняя гара ў Валожынскім раёне. Паводле падання, на гары даўней стаяў замак, які потым праваліўся ў зямлю. "Сіняй" гару завуць таму, што яна нібыта дымілася. З эпітэтам "сіні" ў міфалогіі звязваюцца ўяўленні пра замагільны свет. На Сініх гарах пакланяліся душам продкаў.

Ёсць ўзгоркі і з назвай Красная гара. У пасляпелікодны тыдзень на такіх узгорках запальвалі вогнішчы, танцавалі і скатвалі з гары запаленыя колы.

Даволі часта сустракаюцца такія назвы ўзгоркаў, як Лысая гара, Чортава гара. Першая ў беларускай міфалогіі лічыцца месцам збору нячыстай сілы. Нібыта ад сутыкнення з ёй такія горы аблыселі. А збіраюцца тут ведзьмы ў ноч на Купалле. Лысыя горы ёсць каля Заслаўя, што паблізу Мінска, пад Бялынічамі; недалёка ад Мазыра знаходзіцца Шайтан-гара і Бесава гара.

На працягу II тысячагоддзя на старажытныя назвы ўзгоркаў наслойваліся назвы тыпу Татарская гара, Турэцкая гара, Шведская гара, Французская гара, што звязана з падзеямі больш блізкай да нас гісторыі.

Такім чынам, культавыя ўзгоркі — гэта помнікі не толькі прыроды, але гісторыі і культуры.

**Людміла ДУЧЫЦ,
старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук.**



Паспяхова выступіў на Міжнародным фестывалі-конкурсе балета ў Даўгаўпілсе калектыў узорнага ансамбля класічнага танца "Піруэт" пры віцебскай школе мастацтваў № 1. Харэаграфічныя мініяцюры ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка ансамбля і балетмайстра Іны Пчолкінай былі сустрэты авацыямі.

Калектыў ансамбля — лаўрэат фестываляў "Мы родам з дзяцінства" і "Беларусь — мая песня". Гэтым разам ён ганараваны дыпломам I ступені.

НА ЗДЫМКУ: мастацкі кіраўнік Іна Пчолкіна са сваёй выхаванкай Юляй Якубоўскай.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Позірк у мінулае

# Як на Беларусі рыхтавалі настаўнікаў

***На працягу XIX стагоддзя Беларусь заставалася адной з адсталых ускраін царскай Расіі. Пасля закрыцця Горыгорацкага земляробчага інстытута тут не засталося ніводнай вышэйшай навучальнай установы.***

***Пытанне аб адкрыцці універсітэта на Беларусі ўзнімалася неаднаразова. У 90-я гады XIX стагоддзя ў газетах і часопісах разгарнулася дыскусія па гэтай праблеме. Але што было гаварыць пра вышэйшую школу, калі нават звычайная школа не мела магчымасці развівацца нармальным чынам.***

На развіццё школ патрэбны былі грошы, але царскі ўрад траціў іх на іншыя патрэбы. У школах не хапала педагогаў. Настаўніцкія семінарыі беларускіх губерняў рыхтавалі штогод каля 190 настаўнікаў, а патрэбнасць у іх была ў дзесяць разоў большая. Ва ўсіх школах Гродзенскай губерні ў 1905 годзе працавалі 1960 чалавек, з іх толькі чатыры мелі вышэйшую адукацыю, 179 — сярэднюю і ніжэй сярэдняй, астатнія 1777 настаўнікаў не мелі наогул ніякай адукацыі. Навучанне і выхаванне дзяцей вельмі часта ажыццяўлялі адстаўныя салдаты і паліцэйскія, святары-п'яніцы і іншыя выпадковыя асобы.

Патрабавалася прыняцце тэрміновых мер для падрыхтоўкі настаўнікаў. Неабходна было пашырыць прыём ва універсітэты. Але педагагічная работа, становішча настаўніка, эканамічна цяжкае і палітычна бяспраўнае, не задавальнялі дваранскіх дзяцей, якія па-ранейшаму мелі шырокі доступ ва універсітэцкія аўдыторыі. Павялічваць жа прыём у вышэйшыя навучальныя ўстановы сялян і рабочых царскі ўрад не збіраўся. Адзіны Віленскі настаўніцкі інстытут, адкрыты ў 1875 годзе, прымаў 35 чалавек у год і не мог, натуральна, забяспечыць падрыхтоўку дастатковай колькасці настаўнікаў.

Міністэрства народнай асветы прапанавала папячыцелю Віленскай навучальнай акругі адкрыць у адной з заходніх губерняў Расіі настаўніцкі інстытут. Найбольш спрыяльныя ўмовы склаліся ў Віцебску, дзе грамадскія арганізацыі праявілі найбольшую зацікаўленасць у стварэнні такой навучальнай установы. 21 лістапада 1910 года адбылося ўрачыстае адкрыццё інстытута. Яго дырэктарам быў прызначаны К.І.Ціхаміраў, кандыдат навук, які раней працаваў дырэктарам Полацкай настаўніцкай семінарыі. У інстытут на аснове конкурснага экзамену прымаліся асобы, што закончылі курс настаўніцкай семінарыі і ўжо працавалі настаўнікамі. На першы курс прынялі 33 чалавекі.

У інстытуце прадугледжваўся трохгадовы тэрмін навучання. У самой навучальнай установе налічвалася няшмат студэнтаў, але тут функцыянавалі рознага роду настаўніцкія курсы: настаўнікаў ручной працы, жаночыя педагагічныя, па падрыхтоўцы настаўнікаў гімнастыкі для сярэдніх школ, па падрыхтоўцы настаўнікаў чыстапісання і рускай мовы. Такія курсы на працягу некалькіх гадоў выпусцілі значную колькасць настаўнікаў па розных спецыяльнасцях. Акрамя таго, у інстытуце быў арганізаваны прыём экзаменаў на правы вядзення выкладчыцкай работы. Калі на стацыянарнае навучанне сюды прымаліся толькі мужчыны, то экзамены на атрыманне звання настаўніка маглі здаваць і жанчыны. Пры інстытуце працавала гарадское вучылішча, у якім студэнты праходзілі педагагічную практыку.

Магілёўскі (1913 г.) і Мінскі (1914 г.) настаўніцкія інстытуты ствараліся на тых жа асновах, што і Віцебскі, з такой жа колькасцю выхаванцаў і трохгадовым тэрмінам навучання.

Такім чынам, да рэвалюцыі 1917 года на Беларусі існавалі Віцебскі, Магілёўскі і Мінскі настаўніцкія інстытуты.

Вялікія сацыяльныя пераўтварэнні ва ўсіх галінах грамадскага жыцця, якія адбыліся пасля 1917 года, адкрылі новую эпоху сусветнай гісторыі. Кастрычніцкая рэвалюцыя паклала пачатак будаўніцтву сацыялістычнай культуры. Пачалася новая эпоха і для вышэйшай школы.

Поспех стварэння новай школы ў значнай меры залежаў ад падрыхтоўкі настаўнікаў. Часопіс "Народная асвета" ў 1918 годзе пісаў, што для правядзення ў жыццё ідэі ўсеагульнага навучання і ператварэння старой школы ў школу працоўную перш за ўсё неабходна вялікая колькасць настаўнікаў, "настаўнікаў не рамеснага тыпу, а педагогаў па прызванні, людзей адукаваных, якія ведаюць і любяць школу... Для новай школы патрэбна стварыць новага настаўніка".

На тэрыторыі Беларусі ўвосень 1920 года існавалі ўсё тыя ж тры інстытуты народнай адукацыі, якія зазналі неаднаразовыя рэарганізацыі. Гэтыя навучальныя ўстановы рыхтавалі не толькі педагогаў, але і работнікаў па дашкольным выхаванні, бібліятэкараў, газетных і клубных работнікаў, кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці і агітатараў.

Але больш за ўсё патрабавалася настаўнікаў для работы ў школе. Інстытуты не маглі за кароткі тэрмін падрыхтаваць вялікую армію настаўнікаў, таму пры ВНУ пачалі ствараца месячныя, двухмесячныя, трохмесячныя, гадавыя, двухгадовыя і іншыя курсы.

Інстытуты народнай адукацыі адыгралі прыкметную ролю ў развіцці культуры, адукацыі, вышэйшай школы на Беларусі, у падрыхтоўцы кадраў выкладчыкаў. Аднак створаная ў 1919 — 1920 гг. сетка інстытутаў народнай адукацыі аказалася не здольнай вырашаць праблему падрыхтоўкі настаўнікаў. У гэтых інстытутаў не хапала кваліфікаваных выкладчыкаў, надзвычай слабай была іх матэрыяльная база, а гэта не давала магчымасці забяспечыць неабходны для вышэйшай школы ўзровень вучэбна-выхаваўчага працэсу.

У такіх умовах ужо на першай партыйнай нарадзе па народнай адукацыі (снежань 1920 г.) было разгледжана пытанне аб арганізацыі падрыхтоўкі кваліфікаваных педагагічных настаўніцкіх кадраў у сістэме універсітэцкай адукацыі. Пытанне аб адкрыцці кафедр педагогікі і педагагічных факультэтаў у складзе універсітэтаў мае сваю даволі працяглую гісторыю. Традыцыйна погляд на універсітэт як цэнтр "чыстай навукі" ў адрозненне ад прыкладной не дапускаў у асяроддзе універсітэцкіх навуковых дысцыплін педагогіку як дысцыпліну навуковага характару. У старым універсітэце вывучалі медыцыну, уключаючы судовую і паталагічнае мастацтва, вывучалі ўсякага роду права, уключаючы і паліцэйскае права на юрыдычным факультэце, але стары універсітэт не дапускаў не толькі стварэння ў сваіх сценах самастойнага педагагічнага факультэта, але нават кафедры педагогікі.

А між тым ідэя неабходнасці адкрыцця педагагічных факультэтаў і кафедр педагогікі ў сценах універсітэтаў належыць буйнейшым прадстаўнікам педагагічнай думкі ў Расіі, пачынаючы з К.Д.Ушынскага. Менавіта Ушынскі адным з першых прапанаваў адкрыць педагагічныя факультэты ў складзе універсітэтаў, і зусім не для таго, каб даць народных настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй (гэта была тады проста ерэтычная думка!), для таго толькі, каб даць добрую педагагічную падрыхтоўку настаўнікам гімназій і інстытутаў, якія выхоўвалі дзяцей прывілеяваных у класавых адносінах бацькоў, — нават у такім аспекце гэтая думка аб адкрыцці педагагічных факультэтаў выклікала тады адмоўнае стаўленне.

Прагрэсіўныя педагогі канца мінулага стагоддзя сцвярджалі, што для паляпшэння падрыхтоўкі настаўнікаў ва універсітэтах неабходна спецыяльная і самастойная кафедра педагогікі, якая змагла б даваць студэнтам больш поўныя агульнапедагагічныя і метадычныя веды.

Аднак ва універсітэтах на педагогіку па-ранейшаму глядзелі як на непатрэбную дысцыпліну, без якой увогуле можна абысціся. Існавала меркаванне, якое паступова стала пашыраным, нібыта выпускнік універсітэта, атрымаўшы ў поўным аб'ёме добрыя навуковыя веды, будзе выдатна працаваць на любой ніве, у тым ліку і на настаўніцкай.

Асабліва важнай падзеяй у гісторыі развіцця вышэйшай адукацыі Беларусі стала адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1921 годзе. Створаны паводле дэкрэта саўнаркама, ён адыграў велізарную ролю ў падрыхтоўцы і выхаванні спецыялістаў для народнай гаспадаркі і культуры, у тым ліку і педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі.

Пашырэнне сеткі пачатковай і сямігадовай, а пазней і сярэдняй школы, пераход да ажыццяўлення ўсеагульнай сярэдняй адукацыі вымагалі значнага павелічэння і колькасці педагагічных кадраў для масавай школы.

У рэспубліцы востра адчуваўся недахоп у настаўніках з вышэйшай педагагічнай адукацыяй. Аднак вышэйшых педагагічных навучальных устаноў, акрамя педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, не было да 1930 года. Падрыхтоўка педагагічных кадраў ажыццяўлялася пераважна праз педагагічныя тэхнікумы, аднагадовыя і двухгадовыя педагагічныя курсы. Адсутнасць вышэйшых педагагічных навучальных устаноў (педагагічных і настаўніцкіх інстытутаў) адмоўна адбівалася на якасным саставе педагагічных кадраў і перашкаджала развіццю агульнай сярэдняй адукацыі. Калі з 1931 года пачалося шпаркае пашырэнне сеткі сярэдніх школ, Народны камісарыят асветы не здолеў забяспечыць іх высокакваліфікаванымі кадрамі. І толькі ў 1930 — 1931 навучальным годзе ў рэспубліцы пачала разгортвацца сетка вышэйшых педагагічных навучальных устаноў.

У 1930 годзе адкрываюцца педагагічныя інстытуты ў Гомелі, Магілёве, Віцебску, а ў 1931-м — Мінскі педагагічны інстытут. У 1935 годзе былі створаны тры настаўніцкія інстытуты з двухгадовым тэрмінам навучання (Мінскі, Віцебскі, Магілёўскі). Пачалі працаваць таксама Рагачоўскі, Аршанскі настаўніцкія інстытуты. Усе гэтыя навучальныя ўстановы рыхтавалі кадры настаўнікаў для сямігадовай школы. У 1936 годзе сетка настаўніцкіх інстытутаў пашырылася: быў адкрыты двухгадовы настаўніцкі інстытут пры Гомельскім педагагічным інстытуце. Колькасць выпускнікоў і стацыянарных педагагічных навучальных устаноў штогод узрастала дзякуючы павелічэнню кантынгенту студэнтаў і пашырэнню сеткі педагагічных вышэйшых навучальных устаноў і тэхнікумаў.

Такім чынам, напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны падрыхтоўка выкладчыкаў сямігадовай і сярэдняй школы, рабфакаў і тэхнікумаў ажыццяўлялася ў Белдзяржуніверсітэце, пяці педагагічных інстытутах і дзевяці настаўніцкіх інстытутах. У іх на першае студзеня 1941 года налічвалася 5807 студэнтаў.

Пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у рэспубліцы не хапала 11 тысяч педагогаў. Якасны састаў работнікаў быў таксама нізкі. У тым жа 1944-45 навучальным годзе толькі 8,8 працэнта настаўнікаў мелі вышэйшую педагагічную адукацыю.

Першым сярод педагагічных ВНУ быў адноўлены Рагачоўскі настаўніцкі інстытут. У маі 1944 года ўрадам рэспублікі прымаецца рашэнне аб аднаўленні Гомельскага педагагічнага і настаўніцкага інстытутаў. З другой паловы 1944 года працэс аднаўлення вышэйшых навучальных педагагічных устаноў на Беларусі прыкметна актывізуецца.

Аднак нягледзячы на значную работу, зробленую Народным камісарыятам асветы БССР па аднаўленні педагагічных ВНУ, патрэбнасць у настаўніцкіх кадрах заставалася вострай. Было відавочным, што 5 педагагічных і 8 настаўніцкіх інстытутаў, якія ў 1944 годзе аднавілі сваю дзейнасць, не змогуць задаволіць запыты школ рэспублікі ў неабходных спецыялістах.

Пашырэнне сеткі школ, павелічэнне патрэбнасці ў педагогах 5 — 7 і 8 — 10 класаў прымусілі ўлады прыняць шэраг канкрэтных захадаў па развіцці вышэйшай педагагічнай школы: адкрыццё новых педагагічных ВНУ і стварэнне новых факультэтаў і аддзяленняў, пашырэнне кантынгенту студэнтаў, умацаванне вучэбна-матэрыяльнай базы.

Такім чынам, да сярэдзіны XX стагоддзя на Беларусі склалася пэўная сістэма вышэйшай педагагічнай адукацыі, якая ўключала ў сябе 7 педагагічных інстытутаў і 10 настаўніцкіх інстытутаў, якая цалкам магла задаволіць патрэбнасці школ у кваліфікаваных настаўніцкіх кадрах усіх спецыяльнасцей.

**Святлана СУБАЧ.**

*Зямля ад спёкі стомлена гудзела.*
*Дымілася гарачая шаша.*
*І — прахалоды захацела цела,*
*І — захацела цішыні душа.*

*І вечарам,*
*Калі пагоняць коней*
*Туды, дзе толькі ноччу ім хадзіць,*
*Пастушка зловіць вецер у далоні,*
*Каб ім гарачы твар свой астудзіць.*

Гэтыя радкі належаць выдатнаму паэту Анатолю СЕРБАНТОВІЧУ, якому 13 мая споўнілася б 60 гадоў.

Ці ведаем мы?

# Прыгоды аднаго імя

*Я лічу, што пара ўжо беларусам вызначыцца ў адзіным напісанні імя Скарыны і ініцыятарам прапаную быць "Настаўніцкай газеце" як асветніцкаму выданню.*

*У "Малым энцыклапедычным слоўніку" Бракгаўза і Эфрона за 1909 год пра Скарыну напісана:* ***Скорина, Франциск (Георгий).***

*У Беларускай энцыклапедыі:* ***Скарына, Францыск (Георгій).***

*У Вялікай савецкай энцыклапедыі:* ***Скорина, Франциск.***

*У часопісе "Пачатковая школа" ў адным і тым жа нумары знойдзеш:* ***Францыск*** *і* ***Францішак.***

*На беларускай мове, я лічу, будзе правільна пісаць* ***Францішак*** *як пераклад на родную мову слова* ***Францыск****. Для параўнання:*

*па руску —* ***Богушевич Франциск;***

*па беларуску —* ***Багушэвіч Францішак.***

*Але я настаўнік матэматыкі і магу памыляцца. Хай бы сваё слова сказалі спецыялісты.*

**Міхаіл КАРСЕКА,
настаўнік Каладнянскай базавай школы Столінскага раёна.**

У мовазнаўчай навуцы выдзяляецца асобны раздзел — антрапаніміка, якая займаецца вывучэннем уласных імён і прозвішчаў людзей. Гэты разрад лексікі вылучаецца шэрагам спецыфічных асаблівасцей. Перш за ўсё імёны звычайна ўжываюцца ў розных фанетыка-словаўтваральных варыянтах. Адна форма ўжываецца ў сям'і для дзіцяці, і новы варыянт паяўляецца, калі чалавек становіцца дарослым. Таксама іншая форма можа выкарыстоўвацца ў асяроддзі сяброў і знаёмых, калег па рабоце і ў афіцыйнай дакументацыі. Вядомы беларускі мовавед М.Р.Суднік у прадмове да свайго "Слоўніка асабовых уласных імён" адзначае, напрыклад, што ў народзе бытуе больш за 20 гутарковых варыянтаў імені Пётр — *Пётра, Пятро, Пятраш, Пятрусь, Петрык, Пятрок, Пеця, Пецька* і інш. Некаторыя з такіх варыянтаў часам вельмі прыкметна адрозніваюцца адзін ад аднаго па сваёй структуры: *Аляксандр, Алесь, Алік, Саша, Саня, Шура* і інш.

У гісторыі антрапанімікі вядомы шматлікія факты, калі самі носьбіты нейкага аднаго імені свядома адмаўляюцца ад яго і замяняюць іншым па розных, у большасці рэлігійных меркаваннях. Цяпер усе добра ведаюць славянскіх першаасветнікаў Кірыла і Мяфодзія. Але толькі скрупулёзным біёграфам вядома, што ў дзяцінстве Кірыл меў імя Цырха, у свядомы перыяд свайго жыцця ён стаў Канстанцінам, а ў 869 годзе пастрыгся ў манахі і стаў звацца Кірылам, але праз 50 дзён памёр. Тым не менш з гэтым кароткатэрміновым імем ён вядомы цяпер у славянскім свеце. Многія ў Беларусі ведаюць колішняга вучонага мовазнаўцу Мялецця Сматрыцкага, аўтара славутай "Славянскай граматыкі", па якой у свой час пасцігаў пісьменнасць М.В.Ламаносаў. Тым часам толькі пры пострыгу ў манахі ў 1617 годзе ён прыняў сабе імя Мялецій, а дагэтуль зваўся Максімам.

Хочацца яшчэ адзначыць, што ў сучасных беларускіх публікацыях стала модным імёны старажытных дзеячаў беспадстаўна перааформляць на сучасны лад. Цяпер пішуць *Кірыла* Тураўскі, тады як сам пісьменнік у сваіх творах падаваў сваё імя ў выглядзе *Кирил*. Польскі кароль і вялікі князь літоўскі *Стэфан Баторый* цяпер праходзіць пад назвай *Сцяпан Батура*, *Мялецій* Сматрыцкі перадаецца як *Мялет* Сматрыцкі, *Афанасій* Філіповіч як *Апанас* Філіпавіч і інш. Больш за іншых пашанцавала рускаму цару Івану *Грознаму*: сучасным беларускім чытачам ён больш вядомы як Іван *Жахлівы*.

У беларускай гістарычнай антрапаніміцы асобае месца займае імя беларускага першадрукара, асветніка і гуманіста Францыска Скарыны. Можна з усёй упэўненасцю сцвярджаць, што ніякі іншы дзеяч старабеларускай культуры не можа параўнацца са Скарынам па колькасці фіксацый яго імя ў гістарычных крыніцах. Разам з тым ніякае іншае імя не падвяргалася такім трансфармацыям і скажэнням, як імя беларускага першадрукара.

Тут варта адзначыць, што з'яўленне імя *Францыск* у еўрапейскіх мовах звязана з дзейнасцю заснавальніка ордэна францысканцаў Францыска Асізскага (1182 — 1226). Яго манаскі ордэн з прапагандай беднасці як жыццёвага ідэалу і выяўлення евангельскай дасканаласці знайшоў многа прыхільнікаў у краінах Заходняй Еўропы. Разам з тым распаўсюдзілася і яго імя, але ў кожнай еўрапейскай мове яно змянялася ў адпаведнасці з фанетычнымі законамі той ці іншай мовы. У французскай яно стала ўжывацца ў форме *Франсуа*, у англійскай — *Фрэнсіс*, у нямецкай — *Франц*, у венгерскай — *Ферэнц*, у італьянскай — *Франчэска* і г.д. У чэхаў і палякаў замацаваўся варыянт *Францішак*, які першапачаткова меў памяншальна-ласкальнае адценне, страчанае ў далейшай гісторыі гэтых моў.

Навуковае вывучэнне жыцця і дзейнасці Скарыны ва ўсходніх славян пачалося ўжо ў XVIII ст. Даследчыкі знаёміліся непасрэдна

(Працяг на 4-й стар.)

Народная творчасць

# Пралескі роднай зямлі

***Пралеска... У назве гэтай ёсць штосьці кранальна-пяшчотнае і таямнічае. Так названа народная самадзейная студыя выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Стаўбцоўскага раённага Дома культуры. Кіруе ім А.Халявінская.***

Хоць студыя пачала існаваць афіцыйна з пачатку 80-х, творы народных умельцаў экспанаваліся значна раней, з 60-х гадоў. Адраджэнне народнага мастацтва і яго развіццё ў Стаўбцоўскім раёне ідзе даўно. Аб тым, што гэта работа набыла сістэмны, мэтанакіраваны характар, сведчыць колькасць выстаў народнай творчасці, адкрыццё класаў-майстэрань. Толькі за адзін год па жанрах было арганізавана больш за 500 выстаў.

За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па эстэтычным выхаванні працоўных клубу майстроў народнай творчасці "Пралеска" ў красавіку 1989 года прысвоена званне "Народная самадзейная студыя". Зразумела, каб гэта работа не затухла, руплцца творчыя людзі, энтузіясты, для якіх адраджэнне народных рамёстваў стала часткай іх жыцця, і не толькі творчага.

Пачыналася ж усё з гуртковай работы. Пры раённым Доме культуры быў арганізаваны гурток жывапісу, якім кіраваў настаўнік выяўленчага мастацтва Аляксандр Іванавіч Новікаў. Ён прыкладаў шмат намаганняў, каб яго навучэнцы маглі не толькі маляваць, але і даносіць свае творы да гледача. Работа гуртка была не абыякава і аматару народнай творчасці, журналісту, скульптару Андрэю Сцяпанавічу Траяновічу. Ён пачаў арганізоўваць выставы, шукаў усё новых і новых майстроў. Іх сабралася тады каля дзесяці.

Захаваўся і ў цяперашні час распаўсюджаны такі від народнай творчасці, як пляценне кошыкаў з сасновай дранкі. У пяці вёсках Мікалаеўшчынскага сельскага Савета займаюцца гэтым рамяством 17 майстроў. Тут не адзін век людзі выплятаюць гэтыя цудоўныя кошыкі. Найбольш вядомымі пакаленнямі майстроў з'яўляюцца Бедановічы, Ермаковічы, Атрушкевічы.

Улічваючы прагу набыць веды прафесійнага пляцення з дранкі, аддзел культуры ў 1996 годзе адкрыў клас рамёстваў "Сасёнка" па пляценні кошыкаў з сасновай лучыны пры Кнотаўшчынскай базавай школе. Вучыць школьнікаў гэтаму рамяству Раіса Аляксандраўна Атрушкевіч, майстар у пятым пакаленні. У 1998 годзе яе вучні Аляксандр Атрушкевіч і Аляксандр Галуза сталі лаўрэатамі абласнога конкурсу майстроў пляцення ў Слуцку.

Сама Раіса Аляксандраўна вучылася рамяству ў дзеда — Аляксандра Сямёнавіча Атрушкевіча і бацькі — Аляксандра Іванавіча Ермаковіча. Цяпер гэтым займаецца і муж — Іван Аляксандравіч. Сёння сям'я аддае ўвесь свабодны час пляценню. З маленства плятуць кошыкі Сяргей, Аляксандр і Алена.

... З восені (у лістападзе — снежні) нарыхтоўваецца матэрыял. І каб трывалай, паслухмянай у час пляцення была дранка, сасна павінна мець не менш чым сто гадоў. Толькі тады з яе атрымліваюцца тыя маленькія шэдэўры — сплеценыя з любоўю і майстэрствам прыгожыя, лёгкія, зручныя і незаменныя ў жыцці сялянiна кошыкі.

**Н.ШАСТАКОВА.**

Пуцявіны Адраджэння

# У пошуках страчанага часу

*Мы, здаецца, яшчэ не поўнасцю ўсведамляем каштоўнасць паўсядзённасці, якою пастаянна агорнуты. Будзённыя з'явы часта ўспрымаюцца намі як натуральная і, можа, не вельмі цікавая частка нашага жыцця. Але давайце ўспомнім, як любаваліся імі галандскія жывапісцы XVIII стагоддзя ці імпрэсіяністы альбо японскі майстар XIX ст. Хакусаі. Бываюць часы, калі глыткам свежага паветра ўспрымаецца звычайнае жыццё звычайных людзей...*

*У артыкуле, які дасланы ў рэдакцыю з літаратурна-краязнаўчага музея Б.І.Эпімаха-Шыпілы, што створаны ў пасёлку Ветрына Полацкага раёна, узнаўляюцца рысачкі побыту дваранскай сядзібы мінулага стагоддзя, родавага гнязда іх знакамітага земляка. Яны адкрываюць нам новы свет маленькіх падрабязнасцяў таго часу і таго жыцця і выклікаюць пачуццё нейкай светлай самоты і лёгкай тугі, якую французы так прыгожа назвалі "настальжы". І гэта нягледзячы на ледзь чутны подых трагічнага, які ўсё ж "прачытваецца" па-за гэтымі старонкамі і жыццямі.*

*Пошукава-даследчая работа музея атрымала высокую ацэнку Адама Мальдзіса, іншых навукоўцаў, прычым не толькі беларускіх. Сведчанні, з якімі вы маеце магчымасць азнаёміцца ніжэй, яшчэ не друкаваліся.*

**Святлана СУБОЦІНА.**

Багатая Полацкая зямля на таленты. Нарадзіла і выхавала яна і вядомага дзеяча нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя, прафесара Пецярбургскага універсітэта, навукоўца-лінгвіста і этнографа, актыўнага выдаўца і прапагандыста беларускай кнігі, складальніка беларускай хрэстаматыі, вельмі таленавітага чалавека, які валодаў дваццаццю мовамі свету, у тым ліку санскрытам, Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілу (1859 — 1934).

Гэты чалавек аказаў магутны ўплыў на станаўленне Янкі Купалы як паэта. Цяжка сказаць, як склаўся б лёс Я.Купалы без апякунства Эпімаха-Шыпілы. Гэта Браніслаў Ігнатавіч уладкаваў Я.Купалу на агульнаадукацыйныя курсы Чарняева ў Пецярбургу, прадаставіў для паэта пакой у сваёй кватэры на чатыры гады і за пражыванне грошай не браў. Я.Купала жыў у адным пакоі з родным пляменнікам прафесара Антонам. Паэт сталаваўся ў гэтым доме, карыстаўся багатай шыпілаўскай бібліятэкай.

Эпімах-Шыпіла выдаў зборнікі Я.Купалы "Жалейка", "Гусляр", "Шляхам жыцця".

Браніслаў Ігнатавіч сабраў два машынапісныя сшыткі твораў Я.Купалы, ведаючы, як высока ацэняць іх нашчадкі, (паэмы "Курган", "Явар і каліна", "Бражу ў чужыне" і інш.).

Эпімах-Шыпіла быў абаронцам беларускага народа. Дзеля гэтага адрокся ад асабістага жыцця, цалкам прысвяціўшы сябе справе адраджэння.

## Кавалачкі ўспамінаў, з якіх складаецца ўзор гісторыі

У выніку пошукавай работы мы з вучнямі гуртка "Музейная справа" знайшлі шмат цікавых матэрыялаў пра Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілу і яго бацькоў.

У вёсцы Будзькаўшчына нам пашчасціла знайсці дзвюх жанчын, якія паведамілі хоць сціплыя, але цікавыя звесткі пра выгляд маёнтка Эпімахаў-Шыпілаў і бацьку Браніслава Ігнатавіча.

**Марыя Лявонцьеўна Кірпічонак** (1908 года нараджэння, в.Будзькаўшчына, Полацкі раён):

*"Паны Шыпілы жылі ў вёсцы Будзькаўшчына нядоўга. Фальварак прадалі пану Сушынскаму.*

*Дом пана Шыпілы быў трохпавярховы. На першым паверсе жыла чэлядзь, тут жа была і кухня.*

*На другім паверсе жылі гаспадары. Трэці паверх быў не поўнасцю дабудаваны. Жылі толькі летам. Дом быў пабудаваны з чырвонай цэглы. (Цэгла такая моцная, што і сёння ў людзей стаяць печы з панскай цэглы без рамонту.)*

*Я.Купала на кватэры Б.І.Эпімаха-Шыпілы. Санкт-Пецярбург, 1912 год.*

*Ля дома красаваліся вялікі сад і алеі, высаджаныя ліпамі і бэзам.*

*Маці расказвала, што пан быў не ганарлівы, просты. У час сенакосу, калі надыходзіў дождж, працаваў разам з сялянамі, дапамагаў грэбці і звозіць сена ў пуню на конях. І наогул, не цураўся сялянскай працы".*

**Вольга Кірылаўна Глебка** (1914 года нараджэння, в.Будзькаўшчына, Полацкі раён):

*"Вельмі шкада, што дом панскі не захаваўся — усё разбурылі ў вайну. Разбамбілі, спалілі, а тое, што ўцалела, расцягнулі — хто што мог. Цэглу разабралі на печы, склепы і г.д.*

*А такі цудоўны сад, такія алеі былі! І ўсё па загаду мясцовага начальства выкарчавалі, узаралі і засеялі збажынай. А цяпер усё парасло бур'янам, і не пазнаць таго месца, дзе калісь было так прыгожа, хораша, па-гаспадарску дагледжана.*

*Дом быў пабудаваны на беразе возера Сушына. Ад дому да возера вялі дарожкі, абсаджаныя вішнямі, слівамі і грушамі.*

*Усё хараство, створанае і дагледжанае калісь гаспадарскімі рукамі, па загаду старшыні калгаса знішчылі за адзін дзень.*

*Ужо не пазнаць, не вызначыць, дзе стаяў дом, дзе былі сад, алеі, дарожкі. Дзікая пустэча ля возера пануе сёння..."*

Дзякуючы мясцовым жыхарам Аляксею Іванавічу Гвоздзеву (1923 год нараджэння), Марыі Іванаўне Гвоздзевай (1925), Уладзіміру Іванавічу Волкаву (1927), Дзмітрыю Ільічу Волкаву (1944) удалося ўстанавіць выгляд фальварка Двор-Залессе Полацкае, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Браніслава Ігнатавіча. Ды і ў сталым узросце ён кожнае лета любіў адпачываць у бацькоўскім доме, у Залессі.

Вяскоўцы памятаюць, як выглядалі ўсе пабудовы, бо самі жылі ў панскіх пакоях у 20 — 30-я гады.

Усе пабудовы былі драўляныя, крытыя дранкай. Хата стаяла ганкам (у нашай мясцовасці яго завуць верандай) да вуліцы і была абшыта дошкамі.

Стаўняў на вокнах не было. Ліштвы — разныя (з узорамі).

З ганку трапляеш у калідор, з якога вяло двое дзвярэй — у правую і левую паловы дома.

Вакол хаты ў кветніку ад ранняй вясны і да позняй восені цвілі кветкі. За хатай раскінуўся сад, захаваны ад вятроў змешаным лесам.

Дом потым перабудавалі пад жыллё сялянам. Цяпер там жыве М.І.Гвоздзева. Столь (поўнасцю з панскіх пакояў) служыць і сёння гаспадыні дома.

Ад ганка да копанкі вяла алея, высаджаная таполямі. Недалёка ад копанкі, у якой разводзілі рыбу, пад пахучымі таполямі стаялі статуі. На жаль, да нашых дзён дрэвы не захаваліся.

Другая алея вяла да двухпавярховага дома, у якім Эпімах-Шыпіла хацеў адкрыць этнаграфічны музей і дажыць свой век. Дом пасля пажару 1910 года не адбудавалі, бо не было ўжо сіл і здароўя сабраць нанава экспанаты для музея.

Алея была высаджана каштанамі і вішнямі. (Чатыры гады таму вяскоўцы зрэзалі апошні каштан).

Побач з хатай стаяла панская пякарня. Комін ад зямлі і да верху захаваўся і да сённяшніх дзён. Цэгла такая моцная, што за 88 год комін ні разу не рамантавалі.

З былой пякарні пабудавалі хату. Цяпер у ёй жыве Д.І.Волкаў.

З тарцовага боку пякарні размяшчаўся ляднік. Ён захаваўся да сённяшніх дзён, толькі жыхары выкарыстоўваюць яго як сховішча пад садавіну.

Бліжэй да другой копанкі, дзе бралі ваду для гаспадарчых патрэб, разводзілі рыбу і паілі жывёлу, стаяла лазня. Яна была вялікага памеру. Напэўна таму, што ў Гагалінскіх (сваякоў Эпімаха-Шыпілы) была вялікая сям'я. Вяскоўцы ў 20-я гады мыліся ў ёй, называючы лазню "абшчагай".

Бацькі Браніслава Ігнатавіча, а пазней Гагалінскія разводзілі коней. Стайня была вельмі вялікай. Часта любілі паны Шыпілы (як іх называюць вяскоўцы) запрагаць па чатыры і па шэсць коней, калі ехалі ў касцёл ці ў госці.

Была свая сталярня, дзе выраблялі фаэтоны, галоўным чынам для продажу. Са сталярні пабудаваў сабе хату У.І.Волкаў. Цікава, што падлога ў панскай сталярні цалкам захавалася, бо ўзняць яе было нельга (шырокія дошкі мацаваліся адна да другой шыпамі, ці, як у нас кажуць, — на шпунтах). І да сённяшніх дзён яна не згніла, не пакарабацілася.

Цалкам захаваўся свіран (клецъ). Прыступкамі ў ім служаць камяні-валуны. На дзвярах клеці вісіць шыпілаўскі замок. Гаспадыня пакуль што не адважваецца аддаць замок музею, спасылаючыся на тое, што ён вельмі надзейны. У час Вялікай Айчыннай вайны немцы спрабавалі збіць яго, але дарэмна: пашчапалі дошкі дзвярэй, а замок не зламалі.

Студня-журавель не захавалася. Вяскоўцы кажуць, што вада ў студні была вельмі чыстая і смачная. У час вайны немцы з Ветрына прыязджалі набіраць ваду для кухні менавіта з шыпілаўскай студні...

## Гаспадыню фальварка называлі "пані-французіха"

Выклікаюць вялікую цікавасць, а часам прымушаюць задумацца ўспаміны старажылаў Залесся.

**Аляксей Іванавіч Гвоздзеў** (1923 года нараджэння, в.Залессе, Полацкі раён):

*"Я быў малым, але памятаю, як вясковыя мужчыны часта ўспаміналі паноў Шыпілаў.*

*Чамусьці гаспадыню фальварка называлі "пані-французіха". Дакладна я не ведаю: мабыць, яна ўмела чытаць па-французску, можа таму што яе муж часта бываў у Францыі.*

*Паня была добрая, людзям у яе жылося добра. Бабуля расказвала: калі жняя парэжа палец сярпом, то пані сама змазвала рану нейкімі лекамі.*

*Панскі дом быў вельмі вялікі, з адкрытай верандай. Стаяў ён уздоўж вуліцы, патанаючы ў кветках і зелені..."*

**Марыя Іванаўна Гвоздзева** (1925 года нараджэння, в.Залессе, Полацкі раён):

*"Мая хата пабудавана з панскіх пакояў. Свіран захаваўся цалкам панскі. Частку яго я выкарыстоўваю пад хлеў, а другая палова служыць па прызначэнні...*

*Зарубкі ў свірне захаваліся яшчэ з панскіх часоў.*

*Мая бабуля і маці расказвалі, што пані добра плаціла за работу жанчынам. Напрыклад, за праполку кветак, буракоў ці морквы за дзень давала паркалёвую хустку або грошы на хустку".*

**Уладзімір Іванавіч Волкаў** (1927 года нараджэння, в.Залессе, Полацкі раён):

*"Мая хата пабудавана з панскай сталярні. Сталярня была вельмі вялікая. З адной паловы я пабудаваў сабе хату, а другую вывезлі на раён і пабудавалі сельскі клуб.*

*Падлогу са сталярні я не падымаў. Яна так і сёння мне служыць. Дошкі шырокія, моцныя...*

*Колькі часу жыву ў хаце, праўнукаў дачакаўся, а хата стаіць, быццам з новага лесу.*

*Мой дзед расказваў, што гаспадар фальварка Эпімах-Шыпіла ездзіў у Францыю, прывозіў з-за мяжы смачнае віно і на Купалле частаваў мужыкоў. Ставіў бачок, прывязваў кружку. Мужыкі пілі віно і весяліліся на лузе ля копанкі..."*

## "Браніслаў быў бліскучым суразмоўцам..."

З успамінаў сваякоў.

**Анатоль Іванавіч Дашкевіч** (1932 — 1996), унучаты пляменнік Б.І.Эпімаха-Шыпілы:

*"У бабкі (Валерыі Ігнатаўны) было чацвёра хлопцаў і чатыры дачкі. Браніслаў Ігнатавіч вывеў у людзі іх усіх, вывучыў уласнымі клопатамі. А дабраты і чуласці ў яго хапала не толькі на сваякоў.*

*З падстрэшша яго апякунскіх рук выйшлі такія тытаны беларускай культуры, як Янка Купала, Цішка Гартны, Браніслаў Тарашкевіч. Пад яго даглядам пэўны час працаваў і вучыўся ў Пецярбургу Язэп Драздовіч. З ім была ў сталай перапісцы А.Пашкевіч (Цётка).*

*Добразычлівы позірк вачэй і мудрая ўсмешка ў дзеда захаваліся да апошніх год жыцця. Почырк у яго быў прыгожы, каліграфічны. Дзед збіраў беларускія старажытнасці, звозіў у свой фальварак Залессе, дзе быў пабудаваны двухпавярховы дом, які павінен быў стаць нацыянальным музеем. На жаль, дом Гагалінскіх і дом з экспанатамі згарэлі ў 1910 годзе. Дзякуючы дапамозе Браніслава Ігнатавіча Гагалінскія змаглі хутка адбудаваць пасля пажару новы дом у фальварку Залессе, дзе сям'я зноў сабралася разам. А дом-музей так і не адбудавалі.*

*Браніслаў Ігнатавіч сваёй сям'і не стварыў. Затое ён вельмі любіў дзяцей Гагалінскіх. Кожнае лета ён прыязджаў з Пецярбурга ў Залессе. Дзеда тут заўсёды чакалі з нецярплівасцю, старанна рыхтаваліся да яго прыезду.*

*Даведаўшыся, што прафесар у Залессі, на хутар наведваліся сяляне з суседніх вёсак. Збіралася тут і моладзь. Дзед любіў слухаць песні і прыпеўкі, што спявалі вясковыя весялухі, любіў глядзець, як моладзь танцавала, весялілася. І сам жартаваў з вяскоўцамі.*

*Мая бабуля Валерыя Ігнатаўна Гагалінская ведала шмат шыпілаўскіх жартаў, прымавак, анекдотаў. Жывучы з 1957 года ў маёй маці Соф'і Іванаўны на поўначы, яна мне часта расказвала пра Браніслава Ігнатавіча, пра фальварак Залессе, пра паездку ў Пецярбург, пра жыццё ў сына Антона, якога яна вельмі любіла.*

*Мая маці з удзячнасцю ўспамінала тыя гады, якія яна пражыла ў Эпімаха-Шыпілы ў Пецярбургу (1910 — 1912)..."*

**Іосіф Іванавіч Дашкевіч** (1924 — 1999), унучаты пляменнік, г.Глыбокае.

*"Мая маці, Соф'я Іванаўна, жыла амаль увесь час (да замужжа) з Браніславам Ігнатавічам у Пецярбургу. Яна добра ведала Я.Купалу, таму што той жыў чатыры гады ў Эпімаха-Шыпілы. Разам з Янкам Браніслаў Ігнатавіч вазіў маю маці ў Фінляндыю на адпачынак.*

*Браніслаў Ігнатавіч прысутнічаў на пастаноўцы спектакля Ігната Буйніцкага ў Санкт-Пецярбургу, быў асабіста знаёмы з Буйніцкім. У дзеда былі і карціны Я.Драздовіча. Толькі, на жаль, не ведаю, у каго са сваякоў гэтыя карціны захаваліся.*

*Маці расказвала, што Эпімах-Шыпіла быў спакойны, стрыманы, ураўнаважаны чалавек, вельмі патрабавальны да сябе і добразычлівы да другіх. Спачуваў людскому гору, дапамагаў з апошняга ў бядзе не толькі сваякам, але і проста знаёмым людзям. Асаблівую ўвагу ўдзяляў творчай моладзі з Беларусі, лічачы мецэнацтва сваім абавязкам.*

*Браніслаў Ігнатавіч кожнае лета прыязджаў да сястры Валерыі, бо вельмі любіў гасціць і адпачываць у Залессі. Да яго збіраліся на гутарку вяскоўцы. Дзед любіў слухаць песні, частушкі дзяўчат, любіў народныя танцы, збіраў прыказкі і сам шмат іх ведаў.*

*Усе сваякі вельмі цяжка перажывалі смерць Браніслава Ігнатавіча. Вельмі шкада, што ніхто з нас не змог з'ездзіць на магілу дзеда. Я ведаю са слоў маці, што ён пахаваны ў Санкт-Пецярбургу на Волкавых могілках. Па палітычных прычынах я не пабываў на магіле дзеда, бо, займаючы адказную пасаду ў Глыбоцкім раённым аддзеле адукацыі, баяўся ганенняў..."*

* * *

У траўні 1999 года, не спадзеючыся на станоўчы вынік, я (аўтар артыкула. — **Рэд.**) паслала ліст у Польшчу далёкай сваячцы Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілы — Ядвізе Сельвістровіч. Ёй цяпер 90 год. Але вялікая павага да кузэна — прафесара Браніслава (так называе Я.Сельвістровіч Эпімаха-Шыпілу), светлая памяць, высокая інтэлігентнасць, пачуццё гонару за ўшанаванне памяці нашчадкамі на Бацькаўшчыне далі ёй сілы напісаць незвычайна каштоўны для музея ліст з адказамі на мае пытанні.

*Б.І.Эпімах-Шыпіла ў ваколіцах Ветрына.*

**Ядвіга Сельвістровіч** (Польшча, г.Торунь, 10.07.1999г.):

*"Я — кузіна, далёкая сваячка па крыві. Аднак стасункі з Браніславам былі сардэчныя і сваяцкія.*

*Прафесар Браніслаў меў апрацаванае генеалагічнае дрэва ўсіх сваякоў Эпімахаў-Шыпілаў. Напэўна, гэта дзесьці павінна быць сярод яго дакументаў. Цікава, што стала з яго поўным зборам кніжак, якія ён так любіў, што не ўяўляў сабе, што можа расстацца з імі? Гэта было нават адной з прычын адмовы выехаць з намі ў Польшчу ў 1923 годзе.*

*Сваякоў Гагалінскіх не ведала. Выпадкова на балі медыкаў у Вільні прадставілі мне доктара Гагалінскага, і аказалася, што гэта кузэн. Паразмаўлялі, патанцавалі, і было на гэтым усё...*

*Прафесар Браніслаў бываў у нашым доме (жылі мы недалёка ад Пецярбурга). Ён прыязджаў звычайна на некалькі дзён. Памятаю ажыўленыя вячэрнія размовы. Браніслаў быў бліскучым суразмоўцам. Чытаў нам напісаныя пра сябе сатырычныя вершы. Апавядаў з дэталямі гісторыю роду Эпімахаў-Шыпілаў, падкрэсліваў пры тым, што ўклаў вельмі многа працы ў збіранне матэрыялаў і знайшоў пратапласт (пачатак) роду Эпімах-Шыпілаў.*

*А тая легенда выглядала так (хоць я тады была дзіцем, але што запомніла, тое адкрыю):*

*"Грэк Эпімахос дзелавіта пачынаў у службе польскага караля Баляслава І, быў уганараваны прыдумкай "Шыбкі" (ці "Шыпкі"). Прыдумка тая з цягам часу перайначылася ў "Шыпілло". Прозвішча Эпімахос страціла канцоўку, і выйшла Эпімах. Прозвішча Эпімах-Шыпіла стала вядома ўжо ў XVII стагоддзі. Сведчыць аб тым подпіс на адным з помнікаў на нашым фамільным склепе: "Памёр у 1630г.".*

*Акопы 28/VII 1912 г.*

*Ліст Я.Купалы да Б.І.Эпімаха-Шыпілы. Акопа, 1912 год.*

*Некаторыя сваякі на працягу вякоў станавіліся вядомымі дзяржаўнымі дзеячамі і адміністратарамі.*

*Мае сваякі аселі... у фальварку Юркава, у павеце Дзісненска-Глыбоцкім на Віленшчыне. Фальварак быў нашай уласнасцю, ды другая сусветная вайна змяла яго. Некаторыя засталіся спачываць на старых могілках... Колькі сыноў майго дзеда Войцеха, у тым ліку і мой бацька Вацлаў, выехалі ў Расію і ў Пецярбург.*

*Працавалі на розных важных пасадах.*

*Успамінаю, што яшчэ далей на поўнач, на Браслаўшчыне, было трэцяе гняздо з такім прозвішчам. Прафесар расказваў, што быў там таксама Эпімах-Шыпіла, стары кавалер. Прафесар ведаў яго добра...*

*Перад нашым выездам з Расіі прафесар Браніслаў аддаў захаваць майму старэйшаму брату Чэславу сваю старую гербавую пячатку, якая загінула падчас вайны.*

*Брат памёр у 1987 годзе..."*

Прафэсару п. Б. ЭПІМАХ-ШЫПІЛЛО.

С прычыны пажару у яго маентку.

-.-.-.-.-.-.-.--.-

Не смуціся, Панок, што нешчасьце прышло:
Як прышло, так і пойдзе ад Вас...
Што-ж рабіць, калі гэтак пляцецца жыцьце,
Нясучы нам цярпеньня пад час.

Хатку спаліць агонь, хмарка град прынясе -
Мы цярпім, пацярпім, зноу жывем;
Час, вялікі лекар, гоіць раны усе,-
Што было - заутра робіцца сном.

Нешчасьней есьць ад нас людзі у гэтым жыцьці:
У іх ні поля, ні хатак німа,
Точуць вечна з бядой барацьбу у безпуцьці;
Так марнее душа не адна.

У Вас ня тое: беда у знак не дасца уж Вам:
Вы - знавукай,- з ей к шчасьцю лягчэй...
Пры том - больш мае Бог, як раздау нам людзям;
Не забудзе Вас ласкай Сваей.

Сьветлым зробіць, як сонцэ, усе Ваше жыцьце,
Асалодзіць пацехай не раз.
Толькі кінь, Панок, жаль, што нешчасьце прышло...
Як прышло, так і зыдзе ад Вас.

Янка Купала.

Пецярбург, 1910г.

*Верш Я.Купалы, прысвечаны Б.І.Эпімаху-Шыпіле (аўтарскі экзэмпляр).*

* * *

Цікавіла мяне пытанне: "Якога прыходу былі Эпімахі-Шыпілы?" Хоць у "Спісе населеных месц Віцебскай губерні" пад рэдакцыяй А.П.Сапунова фальварак Залессе аднесены да прыходу Загацце, але ж ёсць падстава меркаваць, што паны Эпімахі-Шыпілы наведвалі касцёл у Заскарках.

Па-першае, фальварак Мушына, дзе спачатку жыла маладая сям'я (Валерыі Ігнатаўны і Івана Гагалінскага, адносіўся да прыходу Заскаркі. Бацькі і брат маглі ехаць да касцёла, а потым заехаць у госці да сястры.

Па-другое, у музеі ёсць успаміны жыхароў в.Заполле, праз якую вяла дарога на Заскаркі.

Па адлегласці ад Загацця і да Заскарак (13 км) — аднолькава, але ж дарога да Заскарак была ў той час лепшай.

Людзей, хто б памятаў, што Эпімахі-Шыпілы ці Гагалінскія ездзілі ў касцёл у Загацце, не знайшлі.

А вось звесткі, што Шыпілы ездзілі ў касцёл у Заскаркі, знайшлі.

**Праскоўя Дзмітрыеўна Банцар** (1912 года нараджэння, в.Заполле Ветрынскага пасялковага Савета):

*"З Ветрына на Заскаркі і Варонічы праз нашу вёску Заполле праходзіў гасцінец.*

*Вёска Заскаркі знаходзіцца ад нас на адлегласці трох кіламетраў.*

*У Заскарках быў цагляны (чырвоны) касцёл, куды ездзілі католікі з Ветрына і з Залесся маліцца ў святочныя дні.*

*Мая маці і старэйшая сястра расказвалі, што ля ўезда ў вёску Заполле стаяла вялікая брама. Калі пад'язджала карэта да брамы з панамі Лісоўскімі, Корсакамі ці Эпімахамі-Шыпіламі, дзеці беглі ахвотна адчыняць яе дзверы. Мог браму адчыніць і сам кучар, але вясковым дзецям было цікава самім адчыняць, бо паны давалі цукеркі і грошы. Ніколі паны не кідалі на зямлю вясковым дзецям цукеркі ці грошы, а заўсёды давалі пачастункі ці гасцінец у рукі".*

**Дар'я Мікалаеўна Шарах** (1905 года нараджэння, в.Заполле Ветрынскага пасялковага Савета):

*"Праз нашу вёску Заполле католікі ездзілі ў касцёл у Заскаркі. Ездзілі на лінейках, у фаэтонах і карэтах (у вёсцы называлі "каробках"). Коней запрагалі па два і па чатыры. Ехалі ў касцёл цэлымі сем'ямі, — прыгожа апранутыя пан, пані і паненка. Шыпілы ездзілі на конях (чатыры або па шэсць).*

*Я добра памятаю, што ў даўнія часы ля ўезда ў нашу вёску стаяла брама. Калі ехалі паны, дзеці беглі адчыняць браму. Сам пан Браніслаў з фаэтона не выходзіў, а падзываў да сябе дзяцей, якія адчынялі дзверы брамы, і частаваў сялянскіх дзяцей цукеркамі ці даваў ім грошы (манеты). А калі хто з дзяцей саромеўся падыходзіць, пан клікаў таго і даваў у рукі грошы і цукеркі "Ракавая шыйка". Дзеці гуртам беглі адчыняць браму, каб пачаставацца цукеркамі ці атрымаць грошы..."*

У выніку пошукавай работы нам удалося знайсці шэраг каштоўных рэчаў, звязаных з імем Эпімаха-Шыпілы. Сярод іх — куфар з вёскі Залессе, грамафон, які любіў заводзіць Эпімах-Шыпіла, сустракаючы гасцей, кнігі розных гадоў выдання (з 1861 г.), ручка ад панскіх пакояў, карціна (эмаль) з выявай культавай пабудовы і інш.

Мы таксама маем фотаздымак Эпімаха-Шыпілы з уласнаручным подпісам.

У нашай школе створаны музей Б.І.Эпімаха-Шыпілы, ён займае пакой на першым паверсе школьнага будынка. У ім налічваецца каля 800 экспанатаў.

**Ала КРАСНОВА,**
**кіраўнік літаратурна-краязнаўчага музея Б.І.Эпімаха-Шыпілы, пас. Ветрына Полацкага раёна.**

Творчасць — справа апантаных

# Мець свой твар!

***Як вы думаеце, пра што марыць кожны дырэктар школы? Перш за ўсё пра тое, каб яго школа мела свой непаўторны твар, мела душу, была жывой і цікавай.***

***Аб гэтым марыць і Эдуард Міхайлавіч Казлоў, дырэктар сярэдняй школы № 3 Крупак. А што азначае: "цікавая і добрая школа?" Гэта цікавы і добры калектыў настаўнікаў, пошук новага, творчы падыход да працы.***

Школа № 3 Крупак працуе над вырашэннем задачы дыферэнцыяцыі вучэбна-выхаваўчага працэсу як сродку павышэння ведаў.

Улічваючы высокі прафесійны ўзровень настаўнікаў, у школе знайшлі магчымасць адкрыць некалькі ліцэйскіх класаў. Ваенна-патрыятычны клас існуе толькі два гады, а вынік — стопрацэнтнае паступленне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы нашай рэспублікі. У школе працуе клас з хіміка-біялагічным ухілам, які створан пры Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны, і ліцэйскі клас пры Мінскім мединстытуце. На высокім узроўні выкладаюць свае прадметы Т.П.Сіняк (англійская мова), І.Г.Каладзінская, Л.С.Шуцько, Г.Э.Малашанка (матэматыка), Г.Ф.Галіна (фізіка), Т.Р.Жукава (беларуская мова), Н.І.Барысенка (біялогія), В.П.Шунько (гісторыя Беларусі). Чатыры гады займаюцца вучні паглыбленым вывучэннем матэматыкі ў настаўніцы Г.Е.Мілеўскай.

55 працэнтаў вучняў, удзельнікаў раённых прадметных алімпіяд, сталі прызёрамі. Гэта вынік творчай педагагічнай працы, паказчык правільна выбранага шляху развіцця школы.

У творчым калектыве школы кожны настаўнік мае ўмовы для ўдасканалення свайго педагагічнага майстэрства. Гэтаму садзейнічае граматны падыход да метадычнай работы. Дэвіз работы ўсіх метадычных цэнтраў — "Творчасць педагогаў — веды вучняў".

Намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Валянціна Іванаўна Скваркоўская расказвае:

— У школе добра зарэкамендавала сябе такая форма работы з кадрамі як метадычныя цэнтры пачатковых класаў, дакладных навук, гуманітарных, грамадска-



эканамічных навук, эстэтычнага напрамку.

Асноўнымі задачамі гэтых метадычных цэнтраў з'яўляюцца вывучэнне і сістэматызацыя творчага матэрыялу, выкарыстанне перадавых тэхналогій, навукова-даследчая работа вучняў. Усім пасяджэнням метадычных цэнтраў папярэднічаюць адкрытыя ўрокі з выкарыстаннем нестандартных тэхналогій.

Створаны клуб творчай педагогікі, членамі якога з'яўляюцца вопытныя настаўнікі з вышэйшай катэгорыяй. Яны апрабіруюць элементы новых тэхналогій на сваіх уроках і вынікі дакладваюць настаўнікам. Ёсць настаўнікі, таксама аб'яднаныя ў групу, якія працуюць над удасканаленнем свайго майстэрства. Ім пастаянна аказваецца метадычная дапамога. Маладыя настаўнікі аб'ядноўваюцца ў групу, якая займаецца па тэме "Сучасны ўрок".

Праз розныя формы работы нарошчваецца педагагічны патэнцыял. Гэта і ўжо традыцыйны конкурс "Урок, якім я ганаруся", і пасяджэнні "Круглага стала" па розных пытаннях, і нетрадыцыйнае правядзенне педагагічных саветаў. Школа працуе над стварэннем умоў для развіцця асобы праз асваенне эфектыўных тэхналогій навучання і стварэння творчай атмасферы ў пазаўрочны час. Эдуард Міхайлавіч гаворыць:

— Нельга "штурмаваць мэты у лоб", непасрэдна ўздзейнічаючы на вынік. Акрамя халтуры і працэнтаманіі гэта нічога не нараджае. Мы дзейнічаем апасродкавана, ствараючы ўмовы для працы і ўдасканалення педагагічнага майстэрства настаўніка. Наша задача — напоўніць вучэбную дзейнасць вучняў магчымасцю праявіць, сцвердзіць, знайсці сябе.

Педагогі школы стараюцца выкарыстоўваць у вучэбным працэсе элементы сучасных педагагічных тэхналогій. На творчых справаздачах, якія сталі традыцыйнай формай работы ў школе, настаўнікі маюць магчымасць пазнаёміцца з працай С.Н.Парфяновіч, якая выкарыстоўвае элементы сістэмы Эльконіна, убачыць, як настаўніца І.Г.Каладзінская працуе па методыцы Шаталава і Запрудскага, як укараняе тэхналогію модульнага навучання М.В.Нікіцiна. Кожны год у школе значна павялічваецца колькасць вучняў — прыходзяць дзеці з пасёлкаў Крупскі, Лянок, з вёсак Каменка, Дакудава і інш.

Кіраўнікі і педкалектыў школы разам з удасканаленнем вучэбнага працэсу вялікую ўвагу ўдзяляюць маральна-этычнай культуры школьнікаў і пытанням эстэтычнага выхавання. У школе ёсць чатыры класы з агульнаэстэтычным ухілам, дзе прафілюючымі прадметамі з'яўляюцца музыка, танец, выяўленчае мастацтва і мастацкая праца. Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце прытрымліваецца думкі, што дзяцей неабходна акружыць такой атмасферай, у якой яны лёгка змаглі б праявіць сябе.

Ёсць у школе мастацкая група "Жарт", назва якой гаворыць сама за сябе, некалькі калектываў народнага і эстраднага ґанца з лірычнай назвай "Эдэльвейс" (кіраўнік А.П.Бальцюгова), ансамблі "Забава" і "Оба-на" (кіраўнік С.П.Гендзік). Ведаюць у раёне і клуб вясёлых і знаходлівых "Спецназ", які заняў першае месца ў гульнях сезона (кіраўнік С.П.Гендзік). Школа некалькі гадоў працуе па праграме "Здароўе". Добрыя сувязі існуюць паміж школай і гарадскім кабінетам "Здаровы лад жыцця", які ўзначальвае Н.І.Францавіч. Рознымі ўзнагародамі ганарыцца школа, але ж прыз кампаніі "Дзірол", які вучні атрымалі падчас правядзення раённай акцыі "Здаровыя зубы — здаровую любы", таксама не лішні. Падтрымліваюць здаровы лад жыцця найбольш папулярныя сярод падлеткаў спартыўныя клубы (кіраўнік В.М.Шуцько, А.М.Гаро, В.П.Шунько), якія створаны ў школе.

Развіццё органаў вучнёўскага самакіравання, дапамога ў развіцці піянерскай і гайдаўскай арганізацый — адна з асноўных выхаваўчых задач, якія ставіць перад сабой педкалектыў. У школе створаны рознаўзроставыя атрады, якія працуюць па месцы жыхарства. Работа рознаўзроставых атрадаў падтрымліваецца бацькамі, якія імкнуцца дапамагчы школе ў пытаннях выхаваўчай работы. Па словах Э.М.Казлова, арганізацыя работы з бацькамі — адна з важнейшых функцый школы.

— Мы прымаем у школе не толькі вучня, а і ўсю яго сям'ю, — гаворыць дырэктар.

Традыцыйнымі ў школе сталі "Бацькоўскія дні" ("Дні адкрытых дзвярэй"). Гэта індывідуальная форма работы праводзіцца часцей за ўсё ў дні школьных канікул, калі бацькі ў добразычлівых, спакойных абставінах сустракаюцца з патрэбнымі ім педагогамі, псіхолагамі, кіраўнікамі ўстановы. Нароўні з гэтым існуюць калектыўныя і групавыя формы работы з бацькамі, у якіх прымаюць удзел настаўнікі, сацыяльныя педагогі і псіхолагі.

У мінулым годзе школа апрабіравала комплексную праграму па прафілактыцы правапарушэнняў, злачынстваў, алкагалізму. Як вынік комплекснага падыходу да вырашэння праблемы — ніводнага злачынства не было ўчынена вучнямі школы. Калектыўная праграма прадугледжвае карпатлівую, сістэмную работу сумесна з супрацоўнікамі ІПН. Кіраўнікі школы цёпла адзываюцца аб інспектарах ІПН Н.Л.Сіняку і Л.А.Аляксандравай, якія на працягу ўжо не аднаго года цесна супрацоўнічаюць з педкалектывам школы.

Школа — жыве, не проста функцыянуе, а развіваецца, знаходзіцца ў пошуку. І гэта галоўнае. Ёсць аднадумцы, ёсць шчырыя душой і сэрцам педагогі, якім не абыякава, як складзецца лёс вучняў.

Было б вельмі добра, каб усё было толькі так, як напісана ў артыкуле. Але ёсць шмат праблем, якія, на жаль, становяцца ў школах традыцыйнымі, з якімі дырэктар сутыкаецца кожны дзень. Дык аб чым марыць Эдуард Міхайлавіч Казлоў? Аб шчаслівым лёсе школы, яе вучняў і педагогаў.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**Наталля МАЛЕЦ,**
**метадысты Мінскага абласнога ІПК.**

Педагагічныя праблемы

# Як навучыць вучыцца

***Вучэбная дзейнасць займае практычна ўсе гады станаўлення асобы, пачынаючы з дзіцячага садка і канчаючы навучаннем у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Атрыманне адукацыі з'яўляецца абавязковым патрабаваннем да любой асобы, таму праблема матывацыі навучання з'яўляецца адной з цэнтральных у педагогіцы і педагагічнай псіхалогіі. Пад матывамі вучэбнай дзейнасці і разумеюцца ўсе віды падахвочванняў: патрэбнасці, мэты, імкненні, захапленні, інтарэсы, устаноўкі, пачуццё абавязку, ідэалы і інш.***

Пачнём з характарыстыкі матыву наведвання школы першакласнікамі (паступлення ў школу). Гэты матыў, на думку Е.П.Ільіна, нераўназначны матыву навучання, таму што патрэбнасцямі, якія прыводзяць дзіця ў школу, акрамя пазнавальнай, могуць быць такія: павышэнне свайго сацыяльнага статусу, імкненне да дарослaсці і жаданне называцца ўжо школьнікам, а не дзетсадаўцам, жаданне быць "як усе", не адставаць у выкананні сацыяльных роляў ад равеснікаў і інш. Адсюль задавальненнем патрэбнасцей могуць быць як вучоба, так і наведванне школы для выканання ролі вучня, школьніка. У апошнім выпадку школьнік добраахвотна выконвае ўсе нормы і правілы паводзін у школе, таму што яны адпавядаюць прынятай ім ролі. Гаворачы пра матыў паступлення ў школу, мы не павінны скідваць з рахунку і іншыя прычыны, у прыватнасці выкананне патрабаванняў бацькоў. У матыў навучання могуць уваходзіць наступныя прычыны: цікавасць да навучання, заснаваная, відаць, на патрэбнасці ў новых уражаннях ад набыцця ведаў, жаданне атрымаць адукацыю ў сувязі з разуменнем яе неабходнасці і для жыцця, і для прафесійнай дзейнасці, жаданне заслужыць пахвалу, задаволіць сваё славалюбства (быць выдатнікам).

Наяўнасць жа ў дашкольнікаў толькі сацыяльна-ролевых матываў наведвання школы і адсутнасць матыву навучання сведчаць пра іх негатоўнасць да школы. Пра матывацыйную гатоўнасць дзяцей шасці гадоў да школы сведчыць іх стаўленне да навучання як да сур'ёзнай грамадска значнай дзейнасці, эмацыянальная схільнасць выконваць патрабаванні дарослых, пазнавальная цікавасць да навакольнай рэчаіснасці, імкненне авалодаць новымі ведамі і ўменнямі.

Замацаванне матыву наведвання школы шмат у чым залежыць ад таго, як настаўнік ставіцца да вучняў.

Вучэбная дзейнасць малодшых школьнікаў ініцыіруецца, рэгулюецца і падтрымліваецца складанай і шматузроўневай сістэмай матываў. У дзяцей, якія паступаюць у школу, пераважаюць шырокія сацыяльныя матывы, што адлюстроўваюць імкненне дзіцяці заняць новае, грамадска значнае становішча і разгарнуць звязаную з гэтым дзейнасць. У першы час знаходжання ў школе гэтыя матывы ў спалучэнні з пэўнымі пазнавальнымі інтарэсамі здольны забяспечыць уключэнне дзіцяці ў асваенне вучэбнай дзейнасці і падтрымліваць цікавасць да яе.

Да канца 1-га класа (а часам і крыху раней) у большасці вучняў унутраная пазіцыя школьніка аказваецца рэалізаванай. І на яе месцы па меры ўваходжання ў школьнае жыццё і асваення вучэбнай дзейнасці ў малодшых школьнікаў выпрацоўваецца складаная сістэма матывацыі навучання, якая ўключае наступныя групы матываў (А.К.Маркава, М.В.Мацюхіна і інш.).

А. Матывы, закладзеныя ў самой вучэбнай дзейнасці і звязаныя з яе прамым прадуктам: 1) матывы, звязаныя са зместам навучання (імкненне пазнаваць новыя факты, авалодваць ведамі, спосабамі дзеяння, пранікаць у сутнасць з'яў); 2) матывы, звязаныя з працэсам навучання (імкненне да праяўлення інтэлектуальнай актыўнасці), патрэбнасць думаць, разважаць на ўроку, пераадольваць перашкоды ў працэсе вырашэння складаных задач і г.д.).

Б. Матывы, звязаныя з ускосным прадуктам навучання, з тым, што ляжыць па-за самой вучэбнай дзейнасцю: 1) шырокія сацыяльныя матывы: а) матывы абавязку і адказнасці перад грамадствам, класам, настаўнікам і да т.п.; б) матывы самавызначэння (разуменне значэння ведаў для будучыні, жаданне падрыхтавацца да будучай працы і да т.п.) і самаўдасканалення (развівацца ў выніку навучання); 2) асабістыя матывы: а) матывы дабрабыту (імкненне атрымаць адабрэнне з боку настаўнікаў, бацькоў, аднакласнікаў, жаданне атрымаць добрыя адзнакі; б) прэстыжныя матывы (жаданне быць сярод першых вучняў, быць лепшым, заняць дастойнае месца сярод сваіх таварышаў); 3) адмоўныя матывы (пазбяганне непрыемнасцей, якія могуць узнікнуць з боку настаўнікаў, бацькоў, аднакласнікаў, калі школьнік не будзе добра вучыцца).

## Матыў прэстыжнасці

Асаблівасцю матывацыі большасці школьнікаў малодшых класаў з'яўляецца безумоўнае выкананне патрабаванняў настаўніка. Сацыяльная матывацыя вучэбнай дзейнасці настолькі моцная, што дзеці нават не заўсёды імкнуцца зразумець, для чаго патрэбна рабіць тое, што ім загадвае настаўнік: калі загадаў, значыць, трэба. Нават сумную і бескарысную работу яны выконваюць старанна, таму што атрыманыя веды здаюцца ім важнымі.

Паводле даных даследавання І.М.Веранікінай (1984), ва ўзросце ад 6 да 10 гадоў узрастае колькасць дзяцей, якія матывуюць сваю вучэбную дзейнасць пачуццём абавязку (з 15 да 34 працэнтаў), і змяншаецца колькасць дзяцей, якія вучацца з-за цікавасці (з 25 да 5 працэнтаў).

Матывацыйную ролю адыгрываюць адзнакі, што атрымліваюць школьнікі, аднак у вучняў 1-2 класаў гэтая роля своеасаблівая. Паводле даных Л.І.Бажовіч, яны ўспрымаюць адзнаку *як ацэнку сваіх стаpанняў*, а *не якасці зробленай работы.* Адна вучаніца запэўнівала, што вучыцца добра, а калі ёй указалі на дрэнныя адзнакі, то запярэчыла: "Мама гаворыць, што я добра стараюся". Адзнака малодшым школьнікам здаецца важнай, калі яна пастаўлена за чвэрць, таму што "не за адзін якінебудзь урок, а за стараннасць". Гэта сведчыць пра тое, што першапачатковы сацыяльны сэнс вучэбнай дзейнасці заключаны для дзяцей *не столькі ў выніку*, колькі ў самім *навучальным працэсе*.

Адзнака ў якасці вядучага матыву навучання выступае больш чым у паловы малодшых школьнікаў. У трэці з іх пераважае *матыў прэстыжнасці*, а пазнавальны інтарэс назіраецца вельмі рэдка. Такая сітуацыя не вельмі спрыяльная для працэсу навучання, таму што адказнасць і працавітасць школьнікаў слаба звязаны з матывам адзнакі ў параўнанні з пазнавальным інтарэсам.

## "Зубрылкі" і гультаі

Аднак такое стаўленне да адзнакі хутка знікае. Школьнікі 3-4 класаў пачынаюць адчуваць цяжар сваіх абавязкаў, іх стараннасць змяншаецца. А вучні 5-6 класаў пачынаюць нават дражніць малодшых школьнікаў за старанне, называючы іх "зубрылкамі".

Такія зрухі ў матывацыйнай сферы адбываюцца таму, што не задавальняецца пазнавальная патрэбнасць вучняў, а гэта звязана з методыкай іх навучання, у прыватнасці, з залішняй колькасцю практыкаванняў, накіраваных на выпрацоўку ўменняў. У выніку празмерна загружаецца памяць і недастаткова выкарыстоўваецца інтэлект.

У малодшых школьнікаў "знаёмыя" матывы часта не адпавядаюць рэальным, якія падахвочваюць іх да вучэбнай дзейнасці. Паводле даных Г.Г.Гусевай, дыяпазон "знаёмых" матываў у вучняў 2-3 класаў даволі шырокі і ўключае як пазнавальныя, так і сацыяльныя матывы. У першую тройку ўвайшлі: "хачу больш ведаць", "цікава пазнаваць новае", "хачу атрымліваць выдатныя адзнакі". Апошнімі названы: "усе вучацца", "не хачу, каб на мяне сварыліся".

У школьнікаў, якія добра паспяваюць і праяўляюць цікавасць да ведаў, "знаёмыя" матывы супадаюць з рэальнымі. У школьнікаў, якія добра паспяваюць, але без ярка выяўленага інтарэсу да ведаў, ёсць няпоўнае супадзенне тых і другіх матываў. У іх дамінуюць матывы: "атрыманне адзнакі", "пахвала" і "патрабаванне".

У пасрэдна- і слабапаспяваючых школьнікаў асноўным з'яўляецца матыў "пазбягання пакарання". Гэты ж матыў уваходзіць у першую тройку "знаёмых" матываў. Такім чынам, адмоўны "знаёмы" і рэальны матывы ў іх супадаюць, а станоўчыя "знаёмыя" ("хачу атрымліваць добрыя адзнакі", "хачу больш ведаць") не супадаюць з рэальнымі.

М.В.Мацюхіна адзначае, што не ўсе матывы ўсведамляюцца малодшымі школьнікамі ў аднолькавай ступені. Дрэнна ўсведамляюцца матывы абавязку і адказнасці, дабрабыту, "прэстыжныя", цэлы шэраг матываў, звязаных са зместам і працэсам навучання (цікавасць да аб'екта дзейнасці, да працэсу дзейнасці, да вынікаў дзейнасці). Але менавіта гэтыя матывы часцей за ўсё выступаюць у якасці рэальных стымулаў вучэбнай дзейнасці. У той жа час матыў самавызначэння, на які часцей за ўсё ўказваюць школьнікі, з'яўляецца не рэальна дзеючым, а проста "знаёмым".

Вылучаюць знешнія матывы, змест якіх не мае нічога агульнага з матывамі навучання. Яны падзяляюцца на "прэстыжныя" і прымусовыя (пагроза пакарання). Апошнія, калі выяўлены моцна, ствараюць стрэсавыя сітуацыі, адмоўна ўплываюць на мысленне школьнікаў. Паводле даных С.А.Мусатава, значэнне матываў "пазбягання санкцый", якія падахвочваюць да выканання вучэбных заданняў, узмацняецца да трэцяга класа. Пры гэтым зніжаецца дамінаванне цікавасці да зместу школьных прадметаў. Відавочна, што матыватарамі вучэбнай дзейнасці малодшых школьнікаў могуць быць сацыяльна-псіхалагічныя фактары: жаданне добра выглядаць у вачах аднакласнікаў, захапленне сваім настаўнікам, жаданне задаволіць яго сваім адказам на ўроку і атрымаць ад яго пахвалу.

## Энергія намеру

Істотнай асаблівасцю матывацыі вучэбнай дзейнасці малодшых школьнікаў з'яўляецца немагчымасць доўга ўтрымліваць *энергію* сфарміраванага *намеру*. Таму паміж стварэннем у іх адпаведнага намеру і выкананнем яго не павінна праходзіць шмат часу, каб гэта імкненне не "астыла". Акрамя таго, перад малодшымі школьнікамі мэтазгодна ставіць не аддаленыя і буйнамаштабныя мэты, а *бліжэйшыя* і *невялікія*. Напрыклад, было выяўлена, што ў тых выпадках, калі дзіця не хоча выконваць нейкае заданне, дзяленне апошняга на шэраг паасобных задач з канкрэтнымі мэтамі падахвочвае дзіця не толькі пачаць работу, але і давесці яе да канца.

Паспяховасць вучэбнай дзейнасці малодшых школьнікаў шмат у чым залежыць ад таго, на што яна накіравана, якія мэты ажыццяўляюць вучні пры гэтым: ці накіраваны гэтыя мэты на авалоданне вучэбным матэрыялам як самастойнай каштоўнасцю або вучэбная дзейнасць служыць для іх толькі сродкам для дасягнення мэт, не звязаных са зместам навучання. Першаступеннае значэнне мае наяўнасць у дзіцяці асобасна значнай мэты. На першых этапах навучання ў школе важна навучыць дзіця прымаць і ўтрымліваць мэты, пастаўленыя дарослымі. Пазней гэта дасць яму магчымасць ставіць перад сабой мэты самастойна. Для таго каб выявіць, на якім месцы стаяць мэты, звязаныя з навучаннем, папрасіце дзіця закончыць сказы: "Я стараюся...", "Я быў бы рады...", "Я спадзяюся...", "Я ўпэўнены...", "Тое, пра што я часта думаю, каб мне купілі...", "Я мару...", "Я не сумняваюся...", "Мая мэта...". Потым падлічыце колькасць адказаў дзяцей, якія адлюстроўваюць:

а) імкненне добра вучыцца, быць выдатнікам, добра закончыць школу, атрымаць добрыя адзнакі, пахвалу, адабрэнне бацькоў, настаўніка і інш.;

б) маральна самаўдасканальвацца (быць старанным, добра сябе паводзіць, уважліва слухаць настаўніка, дапамагаць іншым, быць добрым чалавекам і інш.);

в) накіраванасць на выбар прафесіі і далейшае прадаўжэнне адукацыі (вучыцца ў інстытуце, універсітэце, быць урачом, настаўнікам і г.д.);

г) задавальненне выключна асобасных патрэбнасцей (купіць марожанае, мець кацяня, сабачку, атрымаць у падарунак відэамагнітафон, камп'ютэр і г.д.).

Такім чынам вы вызначыце, якія мэты пераважаюць у вашага дзіцяці. Калі большасць яго адказаў можна аднесці да пункта "г", то гэта сведчыць пра тое, што ў яго не сфарміраваны жыццёвыя мэты, звязаныя з навучаннем. Для таго каб зрабіць крок у гэтым кірунку, абмяркуйце з вучнем значнасць ведаў, дамажыцеся разумення ім важнасці вучобы для будучага жыцця.

Даследаванні псіхолагаў паказваюць, што жыццёвыя мэты большасці малодшых школьнікаў звязаны з навучаннем. Аднак яны не ведаюць, што патрэбна рабіць, каб добра вучыцца. Характэрна, што планы вучняў не сягаюць далёка ў будучыню. Дзеці часцей за ўсё жывуць сённяшнім днём.

## Вучэбная мэта

Усведамленне школьнікам прыватных мэт адбываецца ў працэсе вучэбнай дзейнасці. Каб вучэбная мэта, пастаўленая дарослым, была прынята, стала намерам школьніка, неабходны яго ўдзел не толькі ў вызначэнні мэт, але і ў аналізе, абмеркаванні ўмоў яе дасягнення (паўтарыць заданне, удумацца ў змест, намеціць план выканання і да т.п.). Для таго каб вучэбная мэта стала пабуджальнай сілай, неабходна навучыць дзіця: а) выразна фармуляваць мэту (што пазнаць, чаму навучыцца); б) вызначаць яе значэнне (навошта і для чаго гэта патрэбна); в) вылучыць спосабы дасягнення мэты (як рабіць); г) усведамляць мяркуемыя цяжкасці дасягнення мэт; д) кантраляваць, наколькі выкананне адпавядае мэце, наколькі паспяхова адбываецца рух да яе.

Псіхолагі адзначаюць, што ўсведамленню школьнікам вучэбных мэт садзейнічае таксама дакладная акрэсленасць кола вывучаемых пытанняў, аб'ёму работы на ўрок, тыдзень, чвэрць і нават на навучальны год.

Фармуляванне асноўнай вучэбнай задачы адыгрывае значную матывацыйную ролю ў арганізацыі вучэбнай дзейнасці вучняў. Вучэбная задача паказвае вучням той арыенцір, на які яны павінны накіроўваць сваю дзейнасць (увага, памяць, мысленне і інш.) у працэсе вывучэння пэўнай тэмы (раздзела). Асноўная вучэбная задача ў працэсе вывучэння тэмы (раздзела) праграмы спараджае сістэму прыватных вучэбных задач, якія ў сукупнасці не толькі ствараюць, але і пастаянна падтрымліваюць матывацыйны тонус вучня на працягу ўсяго ходу засваення. Падвядзенне вучняў да самастойнай пастаноўкі і прыняцця вучэбных задач — важная ўмова арганізацыі вучэбнай дзейнасці. І таму няправільна робяць тыя настаўнікі, якія наогул апускаюць матывацыйны этап і абмяжоўваюцца адной фразай: "Сёння мы прыступаем да вывучэння тэмы...", пераходзячы адразу да выкладання новага матэрыялу. Такая "эканомія часу" балюча адаб'ецца на ўсім характары вучэбнай дзейнасці вучняў. Самае першае, чаму неабходна навучыць дзіця, — гэта ўменню самастойна вылучаць вучэбную задачу. Вучань павінен дакладна ўяўляць, якім спосабам дзеяння, правілам трэба авалодаць, каб здолець выканаць канкрэтнае заданне. Найбольш часта сфарміраванасць данага кампанента вучэбнай дзейнасці назіраецца ў першакласнікаў. Так, напрыклад, пры рашэнні арыфметычных задач маленькі школьнік нярэдка засяроджваецца на сюжэтных момантах. Калі ён даведваецца, што па ўмове задачы тата даў сястрычцы на два персікі больш, чым брату, дзіця пачынае абурацца, сцвярджаючы: "Гэта няправільна! Трэба пароўну!" Абмяркоўваючы з дзіцем тое, што было на ўроку, настаўнік і бацькі могуць зразумець, ці вылучае яно вучэбную задачу. Калі дзіця вам расказвае, што сёння ў школе яны рашалі прыклады, а не разумее, для чаго гэта неабходна, не можа патлумачыць, што ўсё гэта важна для таго, каб навучыцца складваць двухзначныя лікі, — значыць, яно яшчэ не ўмее вылучаць вучэбную задачу.

Аднак трэба памятаць, што прыкметы гэтай "хваробы" не заўсёды лёгка заўважыць. Няўменне вылучаць вучэбную задачу адносіцца да ліку схаваных цяжкасцей у навучанні. Дзіця не здольна само вызначыць сваю праблему. Таму, задаючы пытанне "Якія ў цябе цяжкасці?", немагчыма чакаць адказу "Я не ўмею вылучаць вучэбную задачу!" А калі такое і адбудзецца, то можна быць упэўненым — дзіця пры мінімальнай дапамозе настаўніка ці бацькоў навучыцца рабіць гэта самастойна.

## Чаму ты сёння навучыўся?

Такім чынам, у чым жа можа заключацца дапамога дзіцяці з боку дарослых? Па-першае, важна дамагчыся, каб дзіця зразумела, чаго яно раней не ведала і чаму цяпер навучылася. Таму пасля заняткаў, у ходзе якіх дзіця набыло якіянебудзь веды, патрэбна задаць пытанне: "Чаму ты сёння навучыўся?" Пры выкананні заданняў і практыкаванняў можна спытаць вучня: "Як ты думаеш, для чаго неабходна гэтае практыкаванне? Чаму ты можаш навучыцца, калі рашаеш гэтыя прыклады? Чаму прапушчаны некаторыя словы? Чаму ты вывучыў гэтае правіла? Чаму задалі прыдумаць задачу?" і да т.п. Падобныя пытанні дапамогуць не толькі высветліць, ці ўмее дзіця вылучаць вучэбную задачу, але і дапамогуць яму навучыцца рабіць гэта самастойна.

Не менш карысна параўноўваць паміж сабой знешне аднолькавыя практыкаванні, якія адрозніваюцца рознымі вучэбнымі задачамі і накіраваны на адпрацоўку розных правілаў. Напрыклад, абмяркуйце з дзіцем два практыкаванні, дзе неабходна ўставіць прапушчаныя літары. Звярніце яго ўвагу, што першае заданне прызначана для замацавання ведаў аб ненаціскных і націскных галосных, а другое — для навучання правільнаму напісанню глухіх і звонкіх зычных у каранях слоў.

Кожны раз, пасля чарговага этапу засваення новых ведаў, неабходна дапамагчы дзіцяці разабрацца, што ж яно цяпер умее рабіць такое, чаго раней не ўмела. Скажам, не ўмела рашаць задачы ў тры дзеянні, а цяпер навучылася. Падобны аналіз набытых ведаў аблягчае дзіцяці працэс вылучэння вучэбнай задачы. Пазней, авалодаўшы гэтым уменнем, малодшы школьнік пачынае вылучаць вучэбную задачу і ў новым матэрыяле: "Сёння мы будзем вучыцца складваць лікі ў межах 1000".

У 3-4 класах пачынае праяўляцца выбіральнае стаўленне школьнікаў да асобных школьных прадметаў, у выніку чаго агульны матыў вучобы становіцца ўсё больш дыферэнцыяваным: паяўляецца як станоўчая, так і адмоўная матывацыя працэсу навучання ў залежнасці ад цікавасці да прадмета. Аднак у гэтым узросце пазнавальныя інтарэсы дзяцей, як правіла, з'яўляюцца яшчэ эпізадычнымі. Яны ўзнікаюць у пэўнай сітуацыі, часцей за ўсё пад непасрэдным уздзеяннем урока і амаль заўсёды згасаюць, як толькі ўрок заканчваецца. Нарэшце, у гэтых класах зніжаецца роля настаўніка ў падахвочванні да вучэбнай дзейнасці і ў сувязі са зніжэннем яго аўтарытэту. Гэта абумоўлена і павышэннем самастойнасці школьнікаў, і большай іх арыентацыяй на меркаванне аднакласнікаў.

## Матыў не ўзнікае стыхійна

Як адзначаюць А.К.Маркава з саўтарамі (1983), матывацыя, якая вызначаецца галоўным чынам новай сацыяльнай роляй дзіцяці (было "проста дзіця", а цяпер школьнік), не можа падтрымліваць на працягу доўгага часу яго вучэбную працу і паступова губляе сваё значэнне. Таму фарміраванне ўжо ў пачатковых класах матываў, якія надаюць вучобе сэнс, калі яна становіцца для дзіцяці сама па сабе жыццёва важнай мэтай, з'яўляецца адной з галоўных задач настаўніка. Спадзявацца на тое, што матыў навучання ўзнікне сам па сабе, стыхійна, не даводзіцца. Вучэбна-пазнавальныя матывы фарміруюцца ў ходзе самой вучэбнай дзейнасці, таму важна, як гэтая дзейнасць ажыццяўляецца.

Асноўнымі фактарамі, якія ўплываюць на фарміраванне станоўчай устойлівай матывацыі да вучэбнай дзейнасці, з'яўляюцца: змест вучэбнага матэрыялу; арганізацыя вучэбнай дзейнасці; ацэнка вучэбнай дзейнасці; стыль педагагічнай дзейнасці настаўніка.

Змест вучэбнага матэрыялу. Змест навучання выступае для вучняў у першую чаргу ў выглядзе той інфармацыі, якую яны атрымліваюць ад настаўніка, з вучэбнай літаратуры, вучэбных тэлевізійных перадач і іншым шляхам. Аднак сама па сабе інфармацыя па-за патрэбнасцямі дзіцяці не мае для яго якога-небудзь значэння, а значыць, не падахвочвае да вучэбнай дзейнасці. Таму, даючы вучэбны матэрыял, трэба ўлічваць патрэбнасці школьнікаў данага ўзросту.

Гэта: патрэбнасць у пастаяннай дзейнасці, у практыкаванні розных функцый, у тым ліку і псіхічных — памяці, мыслення, уяўлення; патрэбнасць у навізне, эмацыянальным напаўненні, патрэбнасць у рэфлексіі і самаацэнцы і інш. Таму вучэбны матэрыял павінен падавацца ў такой форме, каб выклікаць у школьнікаў эмацыянальны водгук, закранаць іх самалюбства, гэта значыць быць дастаткова складаным, добра ілюстраваным, каб актывізаваць пазнавальныя псіхічныя працэсы. Змястоўна і ілюстрацыйна бедны матэрыял не валодае матывуючай сілай і не садзейнічае абуджэнню цікавасці да навучання.

Імкненне некаторых настаўнікаў (пры нізкай паспяховасці вучняў) па якім-небудзь раздзеле вучэбнай праграмы гранічна спрашчаць матэрыял, "разжоўваць" складаныя пытанні і панянцці хоць і прыводзіць да імгненнага поспеху, але робіць вывучэнне матэрыялу цяжкім і надакучлівым заняткам, які забівае ўсякую цікавасць да навучання.

## Пазнаваць новае і асэнсоўваць набытае

Вучэбны матэрыял павінен абапірацца на ранейшыя веды, але ў той жа час утрымліваць інфармацыю, якая дае магчымасць не толькі пазнаваць новае, але і асэнсоўваць набытыя вопыт і веды, пазнаёміцца з ужо вядомым з новага боку. Важна паказаць, што існуючы ў кожнага вучня жыццёвы вопыт часта падманлівы, супярэчыць навукова ўстаноўленым фактам. Тлумачэнне назіраемых з'яў прыроды надасць новаму матэрыялу патрэбны сэнс, выкліча цікавасць да навуковага пазнання свету.

Аднак, абуджаючы цікавасць школьнікаў да навучання, не трэба залішне эксплуатаваць прыёмы, звязаныя са знешняй займальнасцю ці са спасылкамі на практычную значнасць атрымліваемых ведаў і ўменняў цяпер і ў будучым.

*Арганізацыя вучэбнай дзейнасці.* А.К.Маркава і сааўтары адзначаюць, што вывучэнне кожнага раздзела ці тэмы вучэбнай праграмы павінна складацца з трох асноўных этапаў: матывацыйнага, аперацыйна-пазнавальнага і рэфлексіўна-ацэначнага.

Матывацыйны этап — гэта паведамленне, чаму і для чаго вучням трэба ведаць гэты раздзел праграмы, якая асноўная задача данай работы. Гэты этап складаецца з трох вучэбных дзеянняў:

1. Стварэнне вучэбна-праблемнай сітуацыі, якая ўводзіць у змест тэмы. Гэта дасягаецца з дапамогай наступных прыёмаў: а) пастаноўкі перад вучнямі задачы, якую можна вырашыць, толькі вывучыўшы даную тэму; расказу настаўніка аб тэарэтычнай і практычнай значнасці прапануемай тэмы; в) расказу пра тое, як вырашалася гэтая праблема раней.

2. Фармуляванне асноўнай вучэбнай задачы як выніку абмеркавання праблемнай сітуацыі. Гэтая задача з'яўляецца для вучняў мэтай іх дзейнасці на ўроку.

3. Разгляд пытанняў самакантролю і самаацэнкі магчымасцей па вывучэнні данай тэмы. Пасля пастаноўкі задачы намячаецца і абмяркоўваецца план далейшай работы, высвятляецца, што трэба ведаць і ўмець для вывучэння тэмы, чаго вучням не хапае, каб вырашыць задачу. Такім чынам ствараецца ўстаноўка на неабходнасць падрыхтоўкі да вывучэння матэрыялу.

## Станоўчыя эмоцыі ад зробленага

На аперацыйна-пазнавальным этапе вучні засвойваюць тэму, авалодваюць вучэбнымі дзеяннямі і аперацыямі ў сувязі з яе зместам. Роля гэтага этапу ў стварэнні і падтрыманні матывацыі да вучэбнай дзейнасці і будзе залежаць ад таго, ці разумеюць вучні неабходнасць данай інфармацыі, ці ўсведамляюць сувязь паміж вучэбнымі задачамі і асноўнай, ці выступаюць гэтыя задачы як цэласная структура, гэта значыць ці разумеюць яны прапанаваны вучэбны матэрыял. Істотны ўплыў на ўзнікненне правільнага стаўлення да вучэбнай дзейнасці на гэтым этапе могуць аказаць станоўчыя эмоцыі, якія ўзнікаюць у працэсе дзейнасці ("спадабалася") і ад дасягнутых вынікаў. Таму важна не разважаць пра вучобу, яе важнасць і карысць, а дабівацца, каб вучань пачаў дзейнічаць.

Рэфлексіўна-ацэначны этап звязаны з аналізам зробленага, супастаўленнем дасягнутага з пастаўленай задачай і ацэнкай работы. Падвядзенне вынікаў трэба арганізаваць так, каб вучні адчувалі задавальненне ад выкананай работы, ад пераадолення цяжкасцей і пазнання новага. Гэта прывядзе да фарміравання матывацыі чакання такіх жа эмацыянальных перажыванняў і ў будучым.

Каб пераадолець ці папярэдзіць праблему "непаспяваючага" вучня, важна сфарміраваць у яго ўстойлівую матывацыю дасягнення поспеху. Для гэтага неабходна павысіць самаацэнку і псіхалагічную ўстойлівасць школьніка, дапамагчы яму пераадолець няўпэўненасць у сабе.

## Пераадоленне непаспяховасці

Якім чынам стварыць умовы для перажывання вучнем поспеху і звязаных з ім станоўчых эмоцый?

Найлепшымі з'яўляюцца наступныя рэкамендацыі: 1) неабходна ставіць перад вучнем пасільныя задачы; 2) пастарайцеся знайсці "паспяховыя" сферы дзейнасці адстаючага вучня, каб змяніць стаўленне да яго дарослых і равеснікаў; 3) прапануйце адстаючаму вучню ролю "настаўніка", які дапамагае слабаму вучню з малодшага класа; 4) заахвочвайце самыя малыя ўдачы вучня і дапамагайце папярэджваць яго няўдачы; 5) трэніруйце волю школьніка, няхай вучыцца прымушаць сябе даводзіць пачатую справу да канца (напрыклад, рашаць цяжкую задачу патрэбна адразу і не адкладваць яе на "потым"; 6) ушчуванне не павінна датычыцца здольнасцей вучня, яно павінна быць канкрэтным і накіраваным на ліквідацыю зразумелых яму недахопаў (памылка ў задачы, нядбайнасць у пісьме і г.д.).

Выхаванне ў непаспяваючага школьніка ўпэўненасці ў сабе, у сваіх магчымасцях садзейнічае змяненню яго стаўлення да сваёй непаспяховасці. Наступны важны крок — гэта сумесная з вучнем пастаноўка мэты па пераадоленні адставання ў вучобе. Вельмі важна, каб педагогі і бацькі разам з вучнем абмеркавалі ўмовы і шляхі яго пераадолення непаспяховасці.

Вядома, што ў многіх выпадках групавая форма вучэбнай дзейнасці стварае лепшую матывацыю, чым індывідуальная. Групавая форма "ўцягвае" ў актыўную працу нават пасіўных вучняў са слабай матывацыяй да навучання, таму што яны не могуць адмовіцца выконваць сваю частку работы, каб не падвергнуцца абструкцыі з боку таварышаў. Акрамя таго, падсвядома ўзнікае ўстаноўка на спаборніцтва, жаданне быць не горшым за іншых.

## Розныя стылі фарміруюць розныя матывы

*Ацэнка вынікаў вучэбнай дзейнасці.* Матывуючая роля ацэнкі вынікаў вучэбнай дзейнасці не выклікае сумнення. Аднак занадта частае ацэньванне (выстаўленне адзнак) прыводзіць да таго, што атрыманне добрых адзнак становіцца для вучняў самамэтай. Адбываецца зрух вучэбнай матывацыі з самой дзейнасці, з яе працэсу і вынікаў на адзнаку, якая здабываецца многімі школьнікамі несумленнымі спосабамі. Гэта прыводзіць да згасання матыву ўласна вучэбнай (пазнавальнай) дзейнасці і да дэфармацыі развіцця асобы вучня. Таму ў шэрагу краін у пачатковых класах адзнакі не выстаўляюцца, а ў старшых класах выкарыстоўваюцца толькі формы ўліку і ацэнкі.

Важна, каб у ацэнцы даваўся якасны, а не колькасны (валавы) аналіз вучэбнай дзейнасці вучняў, падкрэсліваліся станоўчыя моманты, зрухі ў засваенні вучэбнага матэрыялу, выяўляліся прычыны існуючых недахопаў, а не толькі канстатавалася іх наяўнасць.

У той жа час прыніжаць матывуючую ролю адзнак (бальнага ацэньвання) пры існуючай у навучальных установах сістэме атэстацыі не варта. Дрэнна гэта ці добра, але адзнакі маюць юрыдычную сілу. Менавіта на іх аснове вучняў пераводзяць з аднаго класа ў наступны, хваляць і заахвочваюць ці, наадварот, ушчуваюць і караюць. У шэрагу краін адзнакі ў атэстаце маюць істотнае значэнне пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Таму вялікая роля адэкватнай ацэнкі ведаў вучняў, што не заўсёды мае месца. У даследаванні Н.А.Курдзюковай выяўлена, што настаўнікі, схільныя да аўтарытарнага стылю дзейнасці, заніжаюць адзнакі ў параўнанні з настаўнікамі дэмакратычнага стылю; настаўнікі з ліберальным стылем, наадварот, завышаюць адзнакі.

*Стыль дзейнасці настаўніка.* На фарміраванне матываў навучання аказвае ўплыў стыль педагагічнай дзейнасці настаўніка, а розныя стылі фарміруюць розныя матывы. Аўтарытарны стыль фарміруе "знешнюю" (экстрынсіўную) матывацыю навучання, матыў "пазбягання няўдачы", затрымлівае фарміраванне "ўнутранай" (інтрынсіўнай) матывацыі. Дэмакратычны стыль педагога, наадварот, садзейнічае інтрынсіўнай матывацыі, а ліберальны — зніжае матывацыю навучання і фарміруе матыў "спадзявання на поспех".

У заключэнне патрэбна адзначыць, што сфарміраванасць станоўчай матывацыі з'яўляецца важным якасным паказчыкам эфектыўнасці вучэбна-выхаваўчага працэсу.

**Яўген РАПАЦЭВІЧ.**

